# ЗЬМЕСТ.


1. **Міхась**—Перад сваім сьвятам.

2. Ліст групы нямецкіх піонэраў.

3. **А. Якімовіч**—Шэфы (апав.).

4. **Барто**—Ван-Лі (поэмка). Пераклад з расійскага.

5. **Чырвонаармеец** — У лясох Эстоніі (п'еска).

6. **Т. Шыбко**—Хто мы (верш).

7. **Валеры Маракоў**—піонэрыя (верш).

8. **Наша жыцьцё.**

9. Навіны навукі і тэхнікі.

10. Чырвоныя зоркі: П. Рагачэўскі.—У восень (апав.) А. Я.—Лагернае (верш).

11. Адказы нашым дапішчыкам.

12. У часе адпачынку.

13. Піонэрскі рух у буржуазных краінах.

14. Піонэры ў панскай Польшчы.





Галоўлітбел № 11873. Менск, 2 друк. БДВ № 4269 (2500).




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы БССР,
тэлефон № 443.

№ 8. ЖНІВЕНЬ 1925 г.




# Перад сваім сьвятам.

— Ну, таварышы, давайце пачнем! Збор нашага атраду будзем лічыць адчыненым,— пачаў Міхась, павадыр атраду.

Піонэры жыва пазьбягаліся з усіх куткоў садзіка, што раскінуўся каля хаты-чытальні, прыціхлі і цесным колам абхінулі павадыра.

— Сягоньня нам трэба пагутарыць з вамі аб Міжнародным Дзіцячым Тыдні,—цягнуў далей Міхась.

— Вы памятаеце, што гэты тыдзень мы сьвяткавалі і летась. Але нас тады было зусім мала: 10 чалавек усяго ў атрадзе. Тады мы не змаглі правесьці вялікую працу ў гэты тыдзень, бо самі былі вельмі слабымі—толькі пачыналі працаваць.

Міжнародны Дзіцячы Тыдзень сьвяткуецца ва ўсім сьвеце ўжо 5-ы раз. Мы ў Савецкай краіне сьвяткуем толькі 4-ы раз.

Дзіцячы Міжнародны Тыдзень у першы раз сьвяткаваўся з 28 чэрвеня па 3 ліпеня 1921 г. У сьвяткаваньні прымалі ўдзел дзіцячыя комуністычныя групы Нямеччыны, Чэха-Славакіі, Францыі і іншых Заходніх краін.

Дзеці рабочых, бачачы, як змагаюцца іх бацькі за свае правы перад буржуямі, пачалі організоўвацца ў групы, каб дапамагаць сваім бацьком у іх цяжкай барацьбе.

— А чым-жа яны змогуць дапамагчы?— перабіў павадыра Міколка, які сядзеў блізка ля яго.

— Пачакай, зараз скажу,—адказаў Міхась.

— Вы чулі, што на фабрыках часта адбываюцца забастоўкі. Рабочыя кідаюць працу і патрабуюць ад гаспадара фабрыкі, каб ён палепшыў іх становішча—прыбавіў грошай

Дзеля гэтага рабочыя пад кіраўніцтвам больш старэйшых і сьмелых сваіх таварышоў склікаюць свае сходы. На гэтых сходах яны і вырашаюць свае справы. У правядзеньні такіх забастовак патрабуецца ад рабочых вялікая організаванасьць і зьлітасьць. Трэба, каб кожны рабіў і вёў такую лінію, як і ўсе. Усе за аднаго, а адзін за ўсіх. І вось маладыя дзеці дапамагаюць у гэтым сваім бацьком. Яны дапамагаюць ім склікаць сходы, расклеіць абвесткі, проклямацыі. Часта дзеці ўхітраліся расклеіваць проклямацыі пад самым носам жандара. Аднаго разу прыклеілі абвестку нават на сьпіне жандара.

Але дзеці адной-якой небудзь краіны не маглі шмат чаго зрабіць карыснага ўсяму сусьветнаму пролетарскаму руху за сваё вызваленьне. Дзеля гэтага трэба было, каб дзеці ўсіх краін былі ўцягнуты ў комуністыч-



ныя групы і аб'яднаны паміж сабою адзіным кіраўніцтвам. Кіраўніцтва над дзіц. ком. груп. узяў Комсамол і Партыя. Бо дзіцячыя ком. групы аб'яднаюцца дзеля таго, каб сваёй працаю дапамагаць комсамолу і партыі.

З гэтага часу комуністычны рух дзяцей хутка пачаў разрастацца. Організаваліся дзеці рабочых і сялян амаль-што ўсіх краін.

Найчасьцей вялікую працу праводзяць піонэры буржуазных краін у школе.

Піонэрам прыходзіцца весьці змаганьне з старою школаю, дзе пануе яшчэ ўсім нам вядомая лапа, законы і іншыя гэтаму падобныя штукі. Настаўнікі ўсе выконваюць загады капіталістых і стараюцца з дзяцей выкаваць для капіталістых паслушную зброю для аховы сваіх буржуазных інтарэсаў.

Піонэры-школьнікі стараюцца ўсімі сіламі раскідаць у вучняў гэты дрэнны ўплыў настаўнікаў. Яны больш сьвядомыя ў політыцы. Свае веды аб жыцьці савецкіх краін і аб неабходнасьці зьнішчэньня старога ўкладу жыцьця яны стараюцца перадаць усім неорганізаваным яшчэ дзецям.

Асабліва дрэнна жывецца дзецям рабочых і сялян у Кітаі. Там рабочыя і сяляне ўціскаюцца з аднаго боку сваёй уласнай буржуазіяй, а з другога чужаземнай—ангельскай і амэрыканскай.

Ёсьць у Кітаі горад Шанхай. Міхась дастаў географічную карту і паказаў гэты горад.

— А колькі там людзей жыве ў Кітаі?—запытала бойкая і чарнавокая Кацярынка.

— Усяго ў Кітаі 400 міліёнаў; у шмат разоў больш, чым у нас у Саюзе ССР.

У горадзе Шанхаі працуе на фабрыках 175 тысяч дзяцей. З іх 20 тысяч маладзей 10-цёх гадоў. Маленькіх дзяцей ад 8 гадоў прымушаюць працаваць 12 гадзін у суткі.

Дзеці ня маюць магчымасьці вучыцца.

Комсамол Кітаю вядзе барацьбу цяпер за тое, каб забараніць працу для дзяцей да 13 гадовага ўзросту, каб дзеці маглі вучыцца.

У міжнародны дзіцячы тыдзень, дзіцячыя комуністычныя групы буржуазных краін будуць дабівацца палепшаньня становішча ўсіх дзяцей. Апрача гэтага, будуць старацца мацней завязаць сувязь з комсамолам для барацьбы за вызваленьне працоўных ад уціску багатых і мацней завязаць сувязь з піонэрамі Саюзу ССР.

— А цяпер, таварышы, давайце пагутарым, што мы зробім і павінны зрабіць у гэты тыдзень.

На мінулым зборы мы адзначылі 5 задач, якія нам неабходна пачаць праводзіць у Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

Можа ўжо забыліся якія гэта задачы?

— Не, не, ведаем!!.—закрычалі ўсе разам.

— А вось хто скажа першую нашую задачу?

Лес рук быў адказам на пытаньне павадыра.

— Вось ты, Васілёк, адкажы ясна і зразумела, каб усе ўжо добра назаўсёды запамяталі.

Бойкі і вясёлы хлапчук з 1 ага зьвяна „Бязбожнік“ пачаў:

— *Нашаму старэйшаму брату комсамолу мы павінны рыхтаваць здаровую зьмену.* Наша заданьне: *Клапаціцца аб здароўі піонэраў і ўсіх дзяцей.*

— А што трэба зрабіць, каб выканаць гэта заданьне,—запытаўся павадыр у другога хлапчука Грышкі.

—Трэба запрасіць да сябе доктара, каб ён нам растлумачыў, як і што трэба рабіць, каб быць здаровым. Парады доктара трэба цьвёрда памятаць і выконваць.

Аб другой задачы пачаў апавядаць піонэр 2-га зьвяна.

— *Бяз ведаў—няма комунізму,*—сказаў наш дарагі дзядуля Ленін

Дзеля гэтага ўсе піонэры і дзеці павінны вучыцца і вучыцца, каб набрацца даволі ведаў для сваёй далейшай працы.

Трэба, каб піонэры вучыліся ў школе лепш за ўсіх і дапамагалі вучыцца тым, хто не пасьпявае. Усіх дзяцей няпісьменных трэба старацца паслаць у школу. У гэтым нам дапамогуць ячэйкі.

Ніводнага няпісьменнага піонэра, ніводнага няпісьменнага дзіцяці—вось што мы павінны зрабіць.

Аб трэцяй задачы расказаў піонэр трэцяга зьвяна.

— Ул. Ільліч заставіў нам завет: *змычка гораду з вёскаю* для таго, каб рабочыя і сяляне маглі сумесна будаваць сваю гаспадарку.

Наша заданьне: *замацоўваць сувязь гарадзкіх піонэраў з вясковымі піонэрамі і ўсімі дзяцьмі.*

— А якая-ж яшчэ ў нас засталася задача?—запытаўся павадыр, як кончылі з папярэдняй.

—Яшчэ дзьве!—пачуліся галасы піонэраў.

— 4-я задача,—пачала Манька, павадырка 4-га зьвяна:

*Мы павінны памятаць аб нашых Заходніх і Ўсходніх братох, што яшчэ мучацца пад панскім прыгонам.* Нам трэба дапамагчы ім у іх барацьбе. Трэба завязаць з ім перапіску, паставіць на карысьць іх спэктакль і старацца наагул зрабіць усё, што толькі можна карыснага для іх, у іх працы і змаганьні.

— І аб самай апошняй задачы хай раскажа Янка.

— Добра, добра!—подхапілі ўсе.

— Вось што, хлапцы й дзяўчаты, мы часта забываемся аб 3-ім сваім законе, аб уцягненьні ў працу атраду яшчэ неорганізаваных дзяцей.

Наша заданьне: *ня толькі выхоўваць саміх у атрадзе, але і старацца абхапіць атрадам усіх дзяцей.*

Нам трэба ўцягнуць гэтых дзяцей у свае гульні, разам з імі гуляць, вучыцца, організоўваць вечары і г. д. Асабліва трэба не забывацца аб бяспрытульных дзецях. Праз гэтае мы зможам значна пашырыць свае атрады.

— Правільна, правільна!—пасыпаліся воплескі.

— Так, таварышы, цяпер нам усім добра вядомы свае задачы. Заўтра на савеце атраду разьмяркуем працу па зьвеньням і пачнём выконваць.

А цяпер, давайце песьню: „Шагай-жа дружна, піонэр“.

* * *

Сонца ўжо было на захадзе, калі піонэры поўныя радасьці і сьвежай энэргіі разыходзіліся па хатах.

*Міхась.*

---

**Юныя ленінцы свабодных краін! Не забывайцеся аб сваіх заходніх таварышох.**

---

# Організацыям юных піонэраў Саюзу ССР, Масква*).

*Дарагія юныя таварышы!*

Мы нядаўна пражылі тры месяцы ў дзіцячым доме ў Воржведзе, над якім Вы так шчыра прынялі шэфства. Гэта было першым вялікім перажываньнем у нашай сумнай моладасьці.

У Воржведзе нас прынялі вельмі добра, і мы кожны дзень з падзякаю ўспамінаем Вас, бо толькі дзякуючы Вам мы сустрэлі такі прыём.

Бацька мой сядзіць у Вальгельме, у катаржнай турме, а матка—у турме Альцэнбургу,—абое за палітычныя злачынствы. У такім-жа становішчы знаходзяцца і другія дзеці. Калі-б ня Ваша дапамога, калі-б ня МОПР, мы-б гэтак сама загінулі з голаду, як загінулі тысячы дзяцей нямецкіх пролетараў.

У нас, у Нямеччыне, бацькоў-комуністых садзяць у катаржныя турмы, а дзеці пападаюць у прытулкі жабракоў.

Ці ведаеце Вы, што гэта за дамы? Нам, здаецца, што Вам цяжка сабе ўявіць, бо такіх установаў у вольнай комуністычнай Расіі няма. У гэтых прытулках заўсёды холодна й цёмна. Голадам і катаваньнем стараюцца з дзяцей выгнаць веру ў бацькоў. Шмат дзяцей памірае ў маладым узросьце. Гэта страшэннае месца, куды фашыцкі ўрад кідае малых дзяцей. Толькі Ваша дапамога і дапамога нашых тутэйшых таварышоў недапусьцілі нас да гэтага кепскага лёсу.

Мы маем магчымасьць толькі на словах Вам падзякаваць. Але нам здаецца, што Вам дасьць некаторае здавальненьне, калі мы прышлём Вам нашу фотаграфічную картку. Галава Транспарту т. Фюлль заказаў нашы фотаграфіі. Цяпер юныя спартакаўцы пасылаюць Вам з рудных гор некалькі картак і даюць абяцаньне, што яны пастараюцца стаць падобнымі на сваіх братоў Савецкіх краін, дзеля таго, каб у будучыне прыняць удзел у заканчэньні справы сваіх бацькоў.

Ваша праца—для нас прыклад, якога мы заўсёды будзем трымацца. О, калі-б мы змаглі ўбачыцца і пагутарыць з Вамі?! Мы ведаем, што гэта немагчыма, але нас аб'ядная саюз МОПР'у—несьмяротнага сусьветнага аб'яднаньня працоўных; мы даем абяцаньне, што не пашкадуем усіх сваіх сіл, каб вырваць з рук клясавага суда яго афяры.

Мы ганарымся нашымі бацькамі. Мы ганарымся нашаю будучынаю; мы ганарымся нашымі таварышамі савецкіх краін.

З комуністычным рэволюцыйным юнацкім прывітаньнем—

Дзеці, якіх бацькі знаходзяцца ў політычных вязьнях.

1) Склала ліст: Урмгарт Мейер; 2) Удзельнікі Транспорту: Раўль Шрайбер; 3) Герда Лет; 4) Герберт Рэйхцэр; 5) Гаіс Эберсбергер; 6) Эрыка Эйгерт; 7) Зігерт Руры; 8) Галава транспарту й старшыня МОПР-у ў акрузе Рур-Фостланд Генрых Фюлльграф.

Шутцанетр 25, Хемніц Б. С.

Пішэце, калі ласка.



*) Ліст атрыманы піонэрамі Расіі ад групы нямецкіх піонэраў.




*(Апавяданьне).*

Вёска зарыпала хлявамі. Абудзіліся сонныя каровы, якія пасьля жвачкі соладка драмалі ў часе летняй сьпякоты ў сваіх духотных катухох. Разьвялі яны сваю звычайную рыклівую музыку. Музыка гэта была такой-жа вялай і соннай, як і самі гавяды.

Чуць пераступаючы з нагі на нагу і трасучы галоднымі пахвінамі, высоўвалі каровы свае мысы з панадворкаў. Не хацелася, відаць, яшчэ вылазіць у палі і лугі шырокія, дзе так надаедліва для сябе трэба шлёпаць хвастамі па бакох, бараніцца ад машкары. Але іх прымушалі.

— Асюды, асюды, рыжая, пярэстая, красуля... весела падмахвалі дубцамі па хвастох пастушкі.

Тая толькі марсяне лямцаватым ад гною хвастом, закруціць азадкам і зноў чуць варушыцца.

А малыя дзеці, не пастушкі, дык адзін перад другім пахаваюцца ў гэты час за вушакамі ці за платамі ў канаплях і давай букішкацца і гізаваць.

Вось-жа радасьці ў хлапцоў і задаваленьня, як якая небудзь маладая цялушка ды паслухае іх гізу і прыпусьціцца рысяком па вуліцы. Тады яны нават асьмеляцца ды й самі ўздагон за гэтаю кізуляю. Ужо раз паляцела рысяка, то й наўгалоп недалёка.

Пацеха малым.

Гэтак і сягоньня. Яўхімаў Пятрусь, самы старэйшы маханьнік у гэтай справе, дык аж дзьве цялушкі ўжо раздражніў. Але гэтага мала. Не задаволіўся Пятрусь гэтым. Не хватала яшчэ, каб пагізаваць з самаю злоснаю цялушкай Сідара Канцавога. Пятрусь чакаў і гэтай штукі. А ўжо здалёк відаць была і яе постаць. Ішла яна злосна чмыхаючы на пясок і разглядваючы на бакі, каб дзе што падхапіць на свае вялізныя тоўстыя рогі.

Пятрусь яшчэ шчыльней прыхінуўся да вушака і, як кот на мыш, зьбіраўся з духам і храбрасьцю, каб напасьці на яе зьнячэўку і засыпаць гізу. Бо з ёю то бываюць і кароткія жарты. Аднаго разу бедны Пятрусь так папаўся ў пераплёт ад яе, што ўцякаючы ў яго аж штаны скінуліся. Цяпер то за штаны Пятрусь не баяўся, бо толькі што маці ўшыла яму новы ядлаўцовы гузік. Тады-ж гузіка гэтага ў яго якраз ня было і абедзьве рукі ў Пятруся служылі для таго, каб падтрымліваць свае штаны.



Але пагізаваць яму сёньня з Сідараваю цялушкаю так і не ўдалося. Усьлед-жа за каровамі шпарка сыпаў Мікіта і здалёк ужо відаць было, як ён сярдзітым замахам доўгай сваёй пугі шалястаў па рабрынах кароў. І толькі Пятрусь зьбіраўся напасьці на цялушку, як Мікіта крыкнуў на яго:

— Гэй, шмэрка, Валодзя пагнаў?

— Пасоў усэ выганяць,—адказаў Пятрусь і апусьціў рукі, бо каровы ўжо перайшлі.

Мікіта шмыгануў у хлеў.

— Ведаеш што?..—крыкнуў ён да Валодзі ўбегшы.

— А што?

— Але ты ня ведаеш?

— Не, ня ведаю.

— І я-б ня ведаў, каб ня сала.

— Якое, што, дзе тое сала?

— Ды тое, што мне Сідарыха дала сягоньня. Яна мяне пазвала ў сенцы даваць у торбу, як я выганяў. Гэта-ж цяпер і была гэта музыка. Бяру гэта я ад яе ў торбу ды чую голас папа. А гаворыць ён з Сідарам. Чую я нешта аб піонэрах размаўляюць і грозяцца да нечага. Я зацікавіўся. Хата якраз была чуць прачынена. Я гэта ўпіхаю сабе памаленьку скварку ў торбу ды ўсё слухаю.

Ну, дык хутчэй! Што выслухаў?

— Дагонім, хай ідуць.

— Ат, пляце чорт ведае што!—пакруціў Валодзя галовою і зьбіраўся прычыніць хлеў.

— Да ня чорт ведае, а тое, што поп і кажа Сідару:

— Трэба ня хлопаць вушамі... трэба распусьціць паголоску, што ў „Зосінскім“ бандыты разьвяліся. Выправім сваіх парабкоў, каб яны добра іх настрашылі. Гэта зрабіць сёньня-ж... І больш я ўжо нічога ня чуў. Яны пачалі ціханька шаптацца. Але мне было даволі ясна: гэта пра іх...

— І што-ж цяпер рабіць?—запытаўся пачакаўшы Мікіта.

— Ага!.. Вось што!?. Добра! Ня будуць драмаць яны, ня будзем-жа і мы. Айда!—моцна, рашуча з хваляваньнем ад злосьці адпаліў Валодзя. Твар Валодзі загарэўся ў гэты час макам. Глыбокае сур'езнае задуменьне абхапіла душу хлапца.

А ў галаве так і засталіся словы: „Вось што!!. Добра! Драмаць ня трэба“...

Мікіта стаяў некаторы час такім-жа задумёным, апусьціўшы ўніз галаву.

— Ідзем!—махнуў рукою Валодзя.

І хлопцы, як падмеценыя, зашасталі па сухім пяску вуліцы ўздагон за каровамі. Толькі ўзьнімаўся ад шлёпату ног сыпучы пыл і білася аб азадак Мікіты яго вялізная торба з салам Сідарыхі.

Каровы ўперліся рагамі ў весьніцы і ўпарта пачалі іх круціць, каб вырвацца ў шырокія загоны аўса. Рэшта пастухоў ужо пагнала.

— Гані ў Карбушоўскую, а я зараз-жа буду там ля палясоўшчыка...—даў начальніцкі загад Мікіта і зьнік за першым загонам аўса.

— Валодзя! Валодзя!! глядзі, глядзі сюды!—крычаў уздагон яму Мікіта.

Але Валодзя ўжо не пачуў. А Мікіта ва ўсе вочы ўтаропіўся на вельмі пацешны для яго малюнак, як Сымон Цвайносін садзіўся на сваю кабылку-антрыпіцу.

— Цьс-сь, антрыпіца, каб цябе яйсьцяйзалі ваўкі!..—крычаў што ёсьць моцы пажылы ўжо чалавек Сымон, якога ўсе ў вёсцы лічылі бяз клёпкі. Да і праўда, гэты Сымон быў толькі пацехаю для ўсіх. Мусіць ён для таго і жыў толькі, каб усе з яго пакеплівалі. Асабліва, калі што-небудзь гаворыць Сымон. Бакі тады падарваць ад сьмеху трэба. Ён ніяк ня мог гаварыць „р“, а вымаўляў яго, як „я“, або „ё“, ці „е“, як калі пападала.

Яго антрыпіца, самая злосная і кусьлівая ў вёсцы кабыла, лоўка падбрыквала азадкам і круціла галавою. Скочыць на яе Сымон і бразьне цераз грыву на другі бок носам у зямлю.

Гэтае здарэньне з Сымонам так зацікавіла Мікіту, што ён і ня ўбачыў, як каровы далёка ўрэзаліся ў сочныя загоны аўса.

На шчасьце нікога блізка ня было.

* * *

Маланкаю прымчаўся Валодзя да лагеру У момант быў скліканы сход і зложаны плян дзеяньня. Валодзя ўсё да каплі расказаў аб жыцьці вёскі. Ад яго піонэры даведаліся таму, што вёска самая цёмная, бедная і загнаная. Вёска баіцца папа і кулака Сідара, якія працуюць аб'яднана супраць беднякоў. Школа ў вёсцы зьмяшчаецца ў маленькай хатцы, якая чуць ліпіць, а сяляне, дзякуючы націску папа і сваёй цемры, пачынаюць будаваць цэркаў. У вёсцы быў заложаны летась коопэратыў пры дапамозе настаўніка і старшыні сельсавету. Але ён даўно ўжо раскідаўся і на месца коопэратыву Сідар пры дапамозе папа і старшыні сельсавету заснаваў сваю лаўку. Старшынёю абраны цяпер зяць Сідара...

Піонэры рашылі дапамагчы вёсцы чаго-б гэта для іх ні каштавала. Асабліва на гэтым настайваў павадыр Міхась.

— Зараз-жа перабрацца ў саўхоз і адтуль пачнем сваю працу. Справа пойдзе. Мы зможам прыцягнуць дзеля гэтага культурныя сілы раёну,—уносіў прапанову Міхась.

Атрад горача адгукнуўся на гэту справу. Ува ўсіх было адно жаданьне: хутчэй пачаць і ўбачыць вынікі сваёй працы на карысьць цёмнай вёскі. І ня было ні ў кога думкі, што можа ўсё гэта дарэмна, што мы нічога тут не дапаможам, бо самі бяз сілы і сродкаў.

---

Між пекных кучаравых кусьцікаў лазы і вербалозьзя зьмейкаю абвівалася ціхая малюсенькая рэчка. Густа і шчыльна абхінулі яе кусты, накрылі сваім гальлём. І толькі зьліску можна было натрапіць сьвежаму чалавеку на гэту маленькую і спакойную рэчку. А наўкола рэчкі, за густымі кустамі, зялёнай пекнаю тканінай распасьцерлася сенажаць. З аднаго боку рэчкі сенажаць цягнулася толькі на крокаў сто, а далей уразалася роўна лахматым гаем.

Гай і высокі абрыўчаты бераг рэчкі заўсёды быў повен жыцьця природы і чалавека.



— Трэба ня хлопаць вушамі...

Сяляне прыходзілі сюды заўсёды кожны вечар пасьля цяжкай і рупнай працы за летні сьпякотны дзень. Прыходзілі, каб удоваль супачыць тут і забраць сваімі грудзямі ад прыроды ўсю патрачаную за дзень сілу.

А ўжо аб дзецях, то што і казаць!? Зьбяруцца яны цэлаю чарадою, купаюцца тут, лазяць па кустох, рэжуць лазу на дудкі, яец шукаюць, качак ці іншых птушак. А гнёздаў розных птушак у гэтым гаі, дык не пералічыш за дзень усіх.

Але сягоньня ў гаі не пазвычайнаму чамусьці. Сёньня гай спакойны ў сваіх задумёных марах. А дзе-ж дзеліся яго заўсёдныя шчасьлівыя і радасныя насельнікі-дзеці? Ціхім, спакойным гуртком сабраліся яны ў самага берагу рэчкі на гладкай ад кустоў прагалінцы. Ідзе сход атраду. Сыплюцца толькі звонкія словы Валодзі аб далейшым пляне працы.

— Таварышы! За месяц нашай працы мы зрабілі самае галоўнае. Мы арганізаваліся ў свой піонэрскі атрад. Мы прывыклі да нашага новага жыцьця ў атрадзе. Але ў нас наперадзе задачы яшчэ цяжэйшыя. Нам пагражае вялікая апаска з боку сваіх бацькоў, калі мы ня сумеем заваяваць у іх поўнага давер'я і аўторытэту. Сідар і поп паднялі самую заядлую і шырокую кампанію між нашых бацькоў, каб яны ня пускалі нас у атрад... Утрымаць атрад і заслужыць прыхільнасьць з боку сваіх бацькоў—наша неадкладная задача.

Валодзя кончыў. Некалькі хвілін усе сядзелі ў маўклівым задуменьні. Пасьля агульна, колектывам пачалі абмяркоўваць і ўкладаць плян чарговай працы. Адзначылі ў першую чаргу правесьці некалькі агульных вечароў сумесна з бацькамі. Запрасіць на вечары настаўніка і Сэкратара раённай ячэйкі. Паслаць сьпешна паведамленьне свайму шэфу і папрасіць, каб прыехалі на першы вечар. Далей, узмацніць працу хаты-чытальні, старацца быць прыкладнымі ў працы, слухаць сваіх бацькоў і найбольш прыцягнуць дзяцей да атраду.

Сход скончылі.

— Будзь гатоў! І бадзёрая піонэрская песьня затапіла сабою зялёнакудры гай.

Песьня заціхала і зьнікала павольна ў блакітным бязьмежным прасторы.

* * *

А праз некаторы час пры ўрачыстым абяцаньні піонэраў на адным з вечароў у часе міжнароднага дзіцячага тыдню Міхась гаварыў:

— Цяпер мы за існаваньне свайго падшэфнага атраду спакойныя. Самая цяжкая праца зроблена. Спадзяёмся, што і надалей праца атраду будзе ісьці неаслабна наперад. І вакол атраду будзе гуртавацца, расьці і выхоўвацца моладзь нашых дзён.

*А. Якімовіч.*

# ВАН-ЛІ

Ў краіне бамбуку і чаю,
Між пекных прыгожых далін,
Далёка—ў Паўднёвым Кітаі
Жыве кітайчонак Ван-Лі.
Як шчылінкі вузкія вочы
Глядзяцца сярдзіта і коса.
Валосься, як дрот, не размочыш,
Што з заду завітыя проста.
З няведамых станцый і сьцежак
Экспрэс ва ўвесь дух бяжыць.
Едуць сюды чужаземцы,
Бяз ліку вязуць багажы.
Бацька ў Ван-Лі рабочы
Ад працы ён чорны, як смоўж;
Ўсе дні, вечары і ночы
Цягае багаж ён за грош.
— Гэй, жывей-жа! Мо хочаш паволі?
Крык нясецца. А то й нагарыць...
Паясьніцу і ломіць, і коле,
А Лі-Мын ужо слабы—стары.
І Ван-Лі памагае Лі-Мыну;
Страшна-ж голаду ляпа, як пастка!
Узваліў Ван-Лі грузу на сьпіну
Хоча хлопчык ісьці, ня упасьці.



Ван-Лі цяжка. Зусім замолад.
Няма яшчэ ў беднага сілы.
Мандарыны у пекных крамзолах
Сядзяць на тэрасах курыльняў.
Толькі чуеш: «Куры» або «пей, Цын»!
Ад курыла ў вачох саракоўкі снуюць.
Тут ня толькі яны—Эўрапэйцы
П'юць і кураць. Кураць і п'юць.
А Ван-Лі толькі палачкай рысу
Трошкі зьеў. Ой, яму не вязе!
Лі расьце. Ён абсунуўся, высах,
Яго вочы глядзяцца у зямлю.
У жыцьці ўсё бярэцца з бою,
Няма нам дарогі другой.
Ван-Лі наш становіцца боем-слугой.
Гаспадар і налева й направа
Бяз ліку раскідвае грошы.
Ён хмуры, сярдзіты...
Сярдзіты, як д'ябал,
Ня трэба жадаць ужо горшых.

«Жывей, за хвіліну, зьлятай ты
Ды вымый, дурніла, гаршкі!»
Крычыць на Ван-Лі гаспадыня,
Кулак яе хлопцу цяжкі.
Ван-Лі не шкадуюць людзі,
Лёс жорсткі ўжо хлопца памяў.
А ўперад маліўся, будзе,
І біўся, і плакаў, сьпяваў.
Ня моліцца болей. Ідал
Ня вельмі яму памагае.
А сэрца і крыўда, і злосьць разрывае.
Лі чуў. Аб краіне далёкай,
Дзе ўсё так прыгожа,
І сэрцу дзе лёгка.
Дзе нейкі вядзьмар-маг
Рэвалюцыі ўзьняў сьцяг.
І стомлены Лі
Сьніць і марыць цішком:
Эх, хутчэй бы туды, хоць пяшком!

— —

Дом у Маскве вялікі.
Вуліцы.. Вакзалы...
Шыльдаў тут бяз ліку
І людзей ня мала.
У восені рванай
Неба зачынена шэрым.
Гром барабана.
Піонэры. Па плітах
У рытм. Моцныя ногі,
Рукі, сьпіны. Вочы сур'езны,
Крок бязупынны. Хто гэта з краю
Шаг даў шырокі?



Чорнагаловы,
Жоўтыя шчокі.
Разам у ногу стараецца
Дробнай хадою кітайца.
Ван-Лі—піонэр.
Слава дзіцячае сьмеласьці!
Ідзе, аб адным гадае,
Што ў гэтай шарэнзе чырвонай
Дойдзе Ван-Лі да Кітаю,
И там да правінцыі пойдзе Паўднёвай

**Барто.**

# У ЛЯСОХ ЭСТОНІІ

*(П'еска).*

*Асобы:*

1) Павадыр піонэрскага атраду.
2) Поп (пастар).
3) Два паліцэйскіх.
4) Паліцэйскі афіцэр.
5) Люся, Курт, Фрыц і Міхель (піонэры).
6) Атрад піонэраў.

АКТ І-ы.

Сцэна: Падпольны піонэрскі клюб. Небагата абсталяваны пакой; на сьценах некалькі плякатаў.

(Люся й Фрыц прыбіраюць пакой і разьвешваюць сьцяг).

Люся: Ну, здаецца, гатова, пойдзем склікаць дзяцей!

Фрыц: Не спяшайся, Люся, дэмонстрацыя-ж пачнецца ў 12 гадзін, а цяпер толькі яшчэ дзевяць.

Люся: Гэта праўда (паўза). А скажы, Фрыц, ці гэта праўда, што паліцыя забараніла прадаваць хлеб, які прывезены з Савецкае Расіі?

Фрыц: А ты хіба ня ведала?

Люся: Але чаму гэта яны гэтак робяць? Чаму цэлыя тысячы людзей павінны застацца галоднымі?..

Фрыц: Чаму тут дзівіцца. Яны пад'еўшы па горла, то што ім да сьлёз галодных людзей. Але нічога, пужацца ня трэба!

Люся: Як гэта ня трэба? Ты можа пад'еў, а я сёньня нічога ў роце ня трымала. Да і хлеба купіць няма за што.

Фрыц: Супакойся, Люся! Прыдзе пара, калі і мы ня будзем галоднымі (паўза). Якая ты, аднак, дзіўная, Люся! Мне трэба было-б больш за цябе баяцца, а я—хоць бы што!

Люся: А чаго табе баяцца?

Фрыц: Ты хіба ня чула, што са мною ўчора было ў школе?

Люся: Зусім нічога ня ведаю.

Фрыц: Дык вось што: Першы ўрок у нас быў па гісторыі, і настаўнік гаварыў нам аб Генрыху Вялікім. Пасьля пачаў пытацца ў мяне, а я ўрока ні гу-гу.

Люся: Ну, і што-ж было?

Фрыц: Нічога ня кажучы, як шалёны, падбег ды па твары лінейкаю як дасьць, дык у мяне аж у ваччу пацямнела... „А іншым"—кажа—„цікавішся!" Я ня спужаўся ды й адказаў: „Мне ваша гісторыя аб Генрыху Вялікім зусім ня цікава; мне трэба біографія Леніна, Лібкнехта і іншых правадыроў рэволюцыі. А ваш гэты хлам к чорту!"

Люся: Ты гэтак і сказаў?! А ён што?

Фрыц: Счарнеў, як вугаль, падбег да мяне і хацеў яшчэ біцца, але Адам Максімавіч заступіўся. „Выганю са школы",—кажа. „Выганяй—мне ня страшна",—адказаў я і на гэтым усё і скончылася.

Люся: Ну, ты маладзец Фрыц, я-б тое самае зрабіла. Да й праўда—на што нам вучыць тых, хто ўціскаў рабочых і сялян?

Голас: (за сцэнаю) Купляйце добрую часопісь „Юный Товарищ".

Фрыц: Чуеш, Люся, дзеці ідуць?

Люся: Гэта добра, меней клапот будзе. (Уваходзяць Курт і Міхель).

Курт: Вы ўжо тут? А я ўжо пасьпеў прадаць сем часопісяй, хоць нядаўна вышаў з друкарні.

Люся: А жандары там цябе ня ўбачылі?

Міхель: Да дзе ім убачыць! Мы такія малыя, што на нас ніхто й не падумае...

Фрыц: А што ёсьць сёньня цікавае ў „Юном Товарище?"

Міхель: Ёсьць адозва да комсамольцаў і піонэраў Эстоніі сьвяткаваць Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

Люся: Прачытай нам, Міхель.

Міхель: Гэта можна. (Адгортае часопісь і чытае) *Піонэры і Комсамольцы Эстоніі!*

Сёньня пролетарскія дзеці ўсяго сьвету сьвяткуюць свой пяты Міжнародны Дзіцячы Тыдзень. Нам трэба адсьвяткаваць таксама. Будзем-жа гатовы.

Усе: Няхай жывуць нашы браты ва ўсім сьвеце!

Люся: Ну, дзеці, будзем сьвяткаваць?

Курт: Зразумела, што будзем. Я толькі што спаткаў нашага павадыра; яго заклікаюць у Раённы Камітэт Комсамолу, мабыць, аб гэтым самым.

Люся: Ага, дык хутка будзем ведаць.

Міхель: Хочаце, таварышы, я вам яшчэ прачытаю адзін артыкул: „У страха вочы вялікія".

Усе: Ну, прачытай!

Міхель: (чытае) „Буржуі спужаўшыся шэпчуцца між сабою". Глядзеце, якое дзіва, хлапчук з чырвонаю зьвяздою па вуліцах возіць пушкі. Паліцыя!.. Паліцыя!.. сюды... сюды...—крычыць буржуй.—Паўстаньне!.. вайна... У адзін момант зьявілася паліцыя й рыхтуецца пачаць страляніну... (У гэты момант убягае з-за дзьвярэй поп).

Поп: А, вось дзе вы чырвоныя сабачкі. Лепей бы, шчаняты, вучылі „отчэ наш", чымся чытаць гэтыя д'ябальскія кніжкі.

Курт: Гаспадзін пастар, купеце добрую часопісь „Юный Товарищ!" (тычае яму ў нос).

Поп: К чорту пашоў з ім разам!

Курт: Да я-ж кажу вам, што гэта добрая часопісь. Тут вы прачытаеце аб забастоўках, пра жыцьцё рабочых, аб жыцьці піонэраў і нават аб Савецкай Расіі.

Поп: (крычыць) У печ гэты хлам! Вы дзе яго дасталі!?

Міхель: Гэта наша справа. І гэта ня хлам, а наша часопісь!

Курт: Гаспадзін пастар, тут вы прачытаеце як бога з неба скідалі, і як на зямлі ад суму на яго пагібель прышла.

Поп: Ах вы, парасяты! Вось яны як!.. Значыць... вы бязбожнікі?.. сьмеяцеся з мяне!.. Паліцыя!.. Паліцыя! Сюды!!!

Курт: (Хватае яго за рукі і ня пускае выходзіць) Стой, баця! Крычаць тут не дазваляецца!

Поп: Значыць, вы яшчэ спрачаецеся! (крычыць) Паліцыя!.. Сюды, сюды!.. (Піонэры кругам абступаюць яго).

Міхель: Убірайся к чорту! Ня ззывай сюды сабак, якія смагнуць нашае крыві!

Курт: Дзеці! Давайце яго выкінем з кватэры і самі ўцяком, усё роўна ўжо ўсё прапала!

(Выпіхаюць папа за дзьверы, зрываюць са сьцен ўсе плякаты і уцякаюць. Сцэна некаторы час пустая. Пасьля ўваходзіць поп і паліцэйскі).

Паліцэйскі: Дзе-ж яны?

Поп: Толькі што былі тут (нюхае кругом).

Паліцэйскі: Уцяклі... Чакайце, чарцяняты, з пад зямлі дастану! Вы з маіх рук не ўцечаце! Пойдзем, пастар! (выходзяць).

*Заслона.*

АКТ II-і.

Палянка ў лесе (можна кругом сцэны паставіць елачкі). На сцэне Люся, Курт, Міхель і Фрыц).

Міхель: Вось тут я думаю мы і спынімся Лепшага месца ня знойдзем.

Люся: І праўда, дзеці, чаго дарэмна па лесе швэндацца.

Курт: Я нічога супраць ня маю! (к Фрыцу) У такім выпадку, Фрыц, ідзі пакліч дзяцей а мы тут пачакаем.

Фрыц: Добра! (выходзіць).

Люся: А ўсё такі раніцаю мы дрэнна зрабілі.

Курт: Чым дрэнна? Што папа выгналі?.. Ня пужайся...

Люся: Пужацца то няма чаго, а вось клюба ня будзе і можа назаўсёды.

Міхель: Яна кажа праўду, Курт! Цяпер бадзяйся па лясох.

Люся: А яшчэ што наперадзе нас чакае нікому невядома!

Курт: Я з вамі, таварышы, згаджаюся, але інакш зрабіць нельга было. Праўда, наша становішча цяпер самае дрэннае, але ня падайце духам! Я знаю, што жандары нас шукаюць усюды, каб захваціць на месцы „злачынства“, як яны лічаць нашу працу.

Міхель: Дзеці йдуць, пойдзем насустрач (усе з радасьцю бягуць). Праз некаторы час на сцэну стройнымі шэрагамі ўваходзяць піонэры і пяюць „Маладняк“.

Ўпярод зару спаткаем,
Сябры, у барацьбе.
Штыкамі і карцеччу
Пралажым шлях сабе.

Повадыр: Атрад, стой!.. садзецеся ў гурток! (Усе садзяцца).

Павадыр: Дзеці! Хоць тут у гэтым лесе, мы павінны сёньня пагутарыць аб тым, як жывуць нашы браты ў Савецкай Беларусі.

Люся: (Перабівае) Дазвольце ўнесьці прапанову

Павадыр: Калі ласка.

Люся: Дзеля таго, каб нас не захапілі тут жандары—выслаць варту.

Усе: Правільна (пасыпаліся воплескі).

Павадыр: Я і забыўся... зараз. (Лічыць з краю, выводзіць і махае ім рукою: раз, два. 4-ы піонэры выходзяць за сцэну).

Піонэры: (разам) Выканаем.

Павадыр: Цяпер будзем гутарыць аб жыцьці нашых братоў у Беларусі... Слова першае бяру сабе.

Усе: Просім! Просім!

Павадыр: У Саюзе ССР дзеці могуць свабодна жыць, працаваць і вучыцца. У Беларусі налічваецца ўжо 40000 піонэраў. Піонэрам дапамагаюць комсамольцы комуністы і ўсе грамадзяне...

...Будзем рыхтавацца, таварышы, да таго, каб і наша краіна хутка далучылася да Саюзу ССР.

Няхай жыве сусьветная піонэрыя.

Люся: Паслаць прывітаньне беларускім таварышом.

Усе: Правільна! Правільна!

Павадыр: У такім выпадку нам патрэбна абабраць камісію для выпрацоўкі рэзолюцыі-прывітаньня. Я прапаную яе абабраць з наступных: Люсі, Фрыца й Міхеля. Хто за маю прапанову? (Усе падымаюць рукі). Аднагалосна. Ну, таварышы, ідзеце пішэце, а мы займемся спортам.

Станавіся...

(Спорт праходзіць пад камандаю павадыра. Некалькі вольных рухаў і пірамід. У часе пірамід піонэры выкрыкваюць лёзунгі... „Няхай жыве дзіцячы рух ва ўсім сьвеце“, „Няхай жыве комсамол—кіраўнік дзіцячага руху“. Пасьля сканчэньня спорту абабраныя для выпрацоўкі рэзолюцыі прыносяць яе).

Павадыр: Цяпер прачытаем рэзолюцыю. (Пакідаюць спорт і слухаюць): „Таварышы Комсамольцы і піонэры Беларусі! Шлём Вам гарачае прывітаньне. Мы вельмі засмучаны, што сьвяткуем ня гэтак як Вы, а ў глухім лесе, хаваючыся ад жандараў. Не забывайце нас, трымайце з намі сувязь і рыхтуйцеся к вызваленьню нас з-пад ярма капіталу.

Няхай жыве Беларускі Комсамол і Беларуская піонэрыя! (воплескі).

Хто за гэту рэзолюцыю, падымеце рукі. (Аднагалосна).

Ну, а цяпер прасьпяваем беларускую піонэрскую песьню й на гэтым скончым сваё сьвяткаваньне.

Станавецеся ў гурток! (Усе становяцца й пяюць):

(На матыў „Маладняк“)

Мы піонэры юныя, працоўным мы сябры,
Мы дзеці комунары, Кастрычніка сыны.
Цьвярдзей свой крок, шырэй размах,
Вышэй наш піонэрскі сьцяг.

Мы піонэры юныя, Кастрычніка сыны, (2 р.)

(Перад канцом песьні чуецца крык дазораў):

Хавайся хто куды!... Жандары!

(Піонэры, пачуўшы крык, зьбіліся ў кучу і ня ведаюць што рабіць).

Павадыр: Атрад, стройся! (Усе ў момант сталі). У лес бягом! (Усе пабеглі, акрамя Люсі, Курта і Міхеля).

Люся: Мы пакуль што застанемся тут і пабачым ці супраўды ёсьць жандары, можа яны нас напужалі.

Міхель: А калі нас зловяць?

Курт: Ну, калі ты баішся, то бяжы за імі, а мы застаёмся... Давайце схаваемся ў кусты (хаваюцца). (Праз некаторы час выбягаюць два жандары).

1 жандар: Ага, чарцяняты, вунь дзе вы хаваецеся! Чакайце, мы вам пакажам!

2 жандар: Бытцам, Генрых Паўлавіч, яны і супраўды тут хаваліся.

1 жандар: Ты-ж бачыш дзіцячыя сьляды, чакайце-ж, чарцяняты! Абяцалі палавіць, значыцца, паловім.

2 жандар: Ай-да па сьлядох. (Выходзяць. Праз некаторы час за сцэнаю крык): Стой... Стой... Страляць буду. (Чатыры выстралы. Чуцен плач і дзікі крык піонэраў. На сцэну прыводзяць Міхеля, Курта і Люсю. Міхель ранены ў руку).

1 жандар: Ну, галубчыкі, папаліся!... Гавары, дзе ўсе іншыя?

Міхель: А табе на што яны?

2 жандар: Добра! Там разьбяромся. Айда, галапупікі чортавы!

Курт: Не галапупікі, а дзеці-комунары.

1 жандар: Маўчаць.. Застрэлю (лупіць прыкладам і выходзяць).

Заслона.

АКТ III-і.

*(Жандарская ўправа).*

Афіцэр: (Адзін) Адно мяне дзівіць, калі гэтыя жэўжыкі пасьпелі організавацца. (Крычыць) Паліцэйскі! Паліцэйскі!

Паліцэйскі: (уваходзіць) Што прыкажаце, Ваша благародзьдзе?

Афіцэр: Прывядзеце мне арыштаваных!

Паліцэйскі: Слухаюся, Ваша благародзьдзе (выходзіць).

Афіцэр: Вырваць, вырваць з каранямі гэтае паганае зельле! (нэрвова ходзіць па сцэне). У гэты час паліцэйскі прыводзіць арыштаваных.

Афіцэр: Вы, гаспадзін паліцэйскі, можаце ісьці, я з імі адзін спраўлюся.

Паліцэйскі: Слухаюся! (выходзіць).

Афіцэр: Ах, вунь хто затрыманы, не чакаў. Я думаў, што дарослыя, ажно жэўжыкі. Хто Вы такія?

Курт: Мы піонэры—юныя комуністыя.

Афіцэр: Як ты сказаў—комуністыя?!..

Люся: Так, мы тыя, якія рыхтуюць сябе на барацьбу за новае і лепшае жыцьцё беднякоў.

Афіцэр: А вялікая ваша організацыя?

Міхель: Наша організацыя—усе дзеці пролетарыяў.

Афіцэр: Вы мяне зусім не разумееце, я вельмі рад вашай організацыі і хачу ведаць колькі вас ў нашым мястэчку.

Міхель. Нешта ня верыцца, каб чалавек, які носіць залатыя пагоны рад быў нашай організацыі.

Люся: Вы ад нас нічога не даведаецеся!

Афіцэр: А-а-а... А што гэта ў вас пад рукою за часопісі?..

Люся: Нашы—піонэрскія.

Афіцэр. Дай, дай мне, я пагляджу, што за часопісь.

Курт: Вам чытаць такую часопісь не пагадох, а калі хочаце, купеце і чытайце.

Афіцэр: Што за парасяты? Я вам прыказваю і патрабую выконваць мае загады.



Міхель: Ну, каб мы вас слухалі, то й не організаваліся-б ніколі!

Афіцэр: Дык вось вы як загаварылі?! Ня хочаце, то я сам вазьму. (Устае з-за стала, падыходзіць да Міхеля і вырывае часопісь).

Міхель: Вы цішэй... Рука баліць.

Афіцэр: Чорт цябе ня возьме. (Разгортвае часопісь і чытае): Адозва да комсамольцаў і піонэраў Эстоніі сьвяткаваць... А, вось яно што! Як жа гэта?.. Вы ўжо і сувязь маеце?.. Калі-ж гэта пасьпелі (усе маўчаць). Што-ж вы маўчыце, я вас пытаю!?

Люся: А вы лічылі, што мы адны? Не!.

Афіцэр: Не гарачэцеся! Я як бачу, дык вы мяне лічыце за свайго ворага, але вы памыляецеся. Я такі-ж прыхільнік комуны, як і в ... Я хацеў вас толькі напалохаць...

Курт: Не прытварайцеся, гаспадзін афіцэр. Не рабецеся лісіцаю, усёроўна вы з нас нічога ня выб'еце. Няхай і памром мы, але ведайце, што тыя, якія застануцца, разьлічацца за нас з вамі.

Афіцэр: Значыцца, вы нічога ня скажаце аб сваёй організацыі?!

Люся: Апошняе наша слова—Не! Вешайце, страляйце нас, ўсёроўны мы будзем праўдзівы сваёй організацыі.

Афіцэр: У такім выпадку памятайце, што вы зьгніяце ў турме!

Міхель: Ня пужайце. (За сцэнаю крык піонэраў, якія прышлі іх выратоўваць).

Афіцэр: Што там за крык?

Галасы: Вы не павінны іх мучыць! Забівайце ўсіх нас, але ня частку.

Афіцэр: Самі зьявіліся. Добра. (Крычыць) Паліцэйскі!

Паліцэйскі: (Уваходзіць) Што прыкажаце, Ваша благародзьдзе?

Афіцэр: Ідзеце арыштуйце ўсіх і вядзеце сюды!

Паліцэйскі: Я нічога з імі не змагу зрабіць. Іх вельмі многа. Яны даўно сабраліся й абвясьцілі, што толькі тады разыдуцца, калі выпусьціце іх таварышоў.

Афіцэр: У такім выпадку я з імі сам распраўлюся (Выходзіць).

За сцэнаю: Эй вы, чэрці, марш!

Галасы: Мы толькі разыдземся тады, калі ўбачым вольнымі нашых таварышоў!

Афіцэр: Пастраляю, чэрці!

Галасы: Усіх не заб'еш, а заб'еш—другія будуць.

Афіцэр: У мяне патронаў хваціць (выстралы).

І Голас: Таварышы, наперад! (Усе крычаць *ура* і частка піонэраў ускаквае ў пакой і паступова ўваходзіць увесь атрад).

Афіцэр: (Убегшы раней піонэраў). Можаце ісьці! (Усе піонэры выходзяць і пяюць „Ад веку мы спалі"... Афіцэр, нагнуўшыся над сталом, качае галавою. Сцэна паволі зачыняецца

*Чырвонаармеец.*

Канец.



## Хто мы.

Мы дзеці бед, нястач і гора,
Мы дзеці тых, хто век стагнаў,
Хто зносіў крыўду, зьдзек учора,
Хто век на пана працаваў.

Расьлі мы ў беднасьці, нягодзе,
Ў гразі, сырых і курных хат,
Жылі у вечнае цясноце,
Сярод курэй і парасят.

Нас гадавалі сцьюжы буры,
Былі бацькамі голад, холад, град...
А нянькамі былі віхуры...
Жыцьцё такое ўжо ня вернецца назад.

Хавалі сонца ад нас хмары
У той мінулы страшны час...
Адбітак прошласьці на твары
Відаць цяпер яшчэ у нас.

Але прайшлі часы няволі,
Дні рабства, крыўды і зьняваг,
Насталі дні шчасьлівай долі:
К Комуне вышлі мы на шлях.

*Т. Ш—ко.*

## Піонэрыя.

Гадавала нас вёска і горад
Ласкай шчырай пад сонцам вясны...
Нашы песьні ў чыгунным прасторы
Льлюцца звонам кіпучай струны!

Мы выходзім, чырвоная раць,
У жыцьцё на мяцежныя хвалі...
І з табой, комсамол, будаваць
Будзем нашы чырвоныя далі!

Паглядзеце ўжо колькі тут нас,
Мы да шчасьця бурлівы палёт!
Мы калёсаў прасмалены пас
На прасторах зялёных палёў.

Мы выходзім, чырвоная раць,
У жыцьцё—на кіпучыя хвалі...
Гэй-жа, з песьняй юнацкай шагаць,
Там, дзе горад і сінія далі!

Гадавала нас вёска і горад
Ласкай шчырай пад соцнам вясны...
Эх, за тое над вольным прасторам
Льлюцца песьні кіпучай струны!

*Валеры Маракоў.*






# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Як мы заснавалі свой атрад.

*(Красналукі).*

У канцы 24 году, неяк выпадкова, нам папалася газэта: „Юный строитель“. Прачытаўшы яе, мы азнаёміліся з жыцьцём і працай піонэраў розных куткоў нашай дзяржавы.

Хлопцы зацікавіліся і захацелі організаваць у нас свой атрад піонэраў. Зьвярнуліся да мясцовай яч. ЛКСМБ. Яна ахвотна вылучыла ў кіраўнікі свайго сябра.

Спачатку запісалася ўсяго 15 асоб, а праз тыдзень атрад налічваў у сваіх шэрагах 30 чалавек. Праца на першых кроках ішла слабавата. Доўгі час ня было свайго клюбу і газэт.

Нарэшце быў пастаўлен спэктакль. На атрыманыя сродкі выпісалі газэты і часопісі, збудавалі Ленінскі куток.

Цяпер праца ажывілася, а ў зьвязку з гэтым і лік сяброў атраду вырас да 50. У далейшым самым галоўным заданьнем мы лічым організацыю атраду „Чырвоных Зорак“.

*Красналуцкія піонэры атраду імя Каменева.*

## Працуем у вёсцы.

(*м. Касьцюковічы, Калінінскае акругі*).

Недалёка ад нашага мястэчка ёсьць вёска Касьцюковічы, з якой у нашым атрадзе было некалькі піонэраў. Піонэры гэтым летам зусім пакінулі хадзіць на зборы атраду. Мы тады пачалі працу ў гэтай вёсцы.

Калі мы праводзілі першы раз сход, дык вясковыя дзеці баяліся сядзець поруч з намі і стаялі з боку. Піонэры растлумачылі ім аб заданьнях піонэраў у вёсцы і наагул.

Тут, апрача гэтага, адзін стары селянін выступіў з прамоваю да дзяцей і раіў ім ісьці ў шэрагі піонэраў.

Цяпер мы праводзім у гэтай вёсцы заняткі зьвеньняў.

Ад нашае працы мы ўжо бачым вынікі: некаторыя дзеці пачалі падаваць заявы, каб залічыць іх у піонэры. На заняткі-ж цяпер пачалі к нам прыходзіць і старыя, каб паслухаць і паглядзець, што мы робім.

Пікоры: *С. Персін і М. Махлін.*
*II атрад Ю. П. імя Я. Адамовіча.*

## Працу наладзілі.

Заснаваўся наш атрад у пачатку студзеня 25 г. Цяпер у ім налічваецца 30 чалавек. І з кожным днём лік піонэраў у нашым атрадзе ўсё большае і большае. Росту атраду мяшае тое, што бацькі яшчэ не зразумелі заданьняў піонэраў і ня пускаюць сваіх дзяцей у піонэры. Спачатку ў нашым атрадзе працы ніякай ня было, бо часта зьмянялі павадыроў. Цяпер у нас павадыром комсамолец, які скончыў вясною акруговыя курсы піонэр-працаўнікоў. Мы ўжо маем сваю хоць малую бібліотэку дзе піонэры знаходзяць усе патрэбныя для сябе кніжкі. Яшчэ нам засталося набыць свой клюб і шэфа якоганебудзь гарадзкога атраду. Мы яшчэ ня маем свайго сьцяга і барабана.

Наш атрад разьбіты на 4 зьвеньні. Акуратна адбываюцца сходы атраду і зьвеньняў. Выпускаем сваю насьценную газэту „Юны Ленінец“. Атрад наш з кожным днём расьце і ўзмацняецца. Хоць памаленьку, але расьце на вёсцы чырвоны гальштук.

Піонэр Самахвалавіцкага атраду
імя Крупскай *Пазьняк Аркадзь.*

**ПІОНЭРЫ! Грамадзянская праца атраду ў вёсцы—грунт нашага росту.**
**Пашырайце грамадзянскую працу!**

## Першы Атрад імя Кім'у.

(*Полацак*).

Наш атрад огарнізаваўся ў 1922 годзе. Раней мы былі маладымі спорсмэнамі. Але ў 1922 г. Полацкі Комсамол даў нам адну комсамолку для кіраўніцтва нашым ужо атрадам. У 1923 годзе мы ўжо вышлі першы раз у лагеры. Там мы прабылі адзін тыдзень і зьвярнуліся дзякуючы дажджу, які змачыў усё наше адзеньне і ўсё, што было ў палатках. У 1923 годзе мы перадалі ў комсамол аднаго піонэра.

У 1924 годзе калі мы вышлі ў лагеры, то атрад наш ўжо значна ўзмацнеў. У лагеры мы былі два тydні. Пасьля звароту з лагеру мы выпусьцілі газэту „Піонэрская Іскра", якая цяпер на акруговым конкурсе ўхвалена, як першай у акрузе. Хутка будзе гадавіна нашай газэты.

Пры атрадзе маюцца ячэйкі Авіахіму і Мопр'у і гурток, які вывучвае статут і праграму ЛКСМ. Маецца літаратурны гурток пікораў, які працуе добра.

Піонэр *Баркан*.

## Прывітаньне кіраўніку беларускага піонэрскага друку.

Рэдколегія і пікоры 1-га атраду імя КІМ у дзень гадавіны сваёй насьценнай газэты „Піонэрская Іскра" шле гарачае прывітаньне кіраўніку піонэрскага друку на Беларусі „Беларускаму Піонэру". Наша пікорыя запаўняе вас, што, узмацоўваючы свае насьценныя газэты і пашыраючы праз гэта лік піонэрскіх дапісчыкаў—мы гэтым самым будзем узмацоўваць і пашыраць сваё друкаванае піонэрскае слова на Беларусі.

Няхай жыве шматлікая армія пікораў!

Няхай жыве беларускі піонэрскі друк!

*Рэдколегія і пікоры „Іскры"*.

## Як мы праводзілі вясковых піонэраў.

У пачатку вучэбнага году к нам, ў Мсьціслаўль, прыехала шмат вясковых дзяцей, якія вучыліся ў Мсьціслаўскіх сямёхгадоўках. За пэрыод вучэбнага году к нам, у 13 атрад, паступіла 13 сялянскіх дзяцей, з якіх апрацаваліся добрыя піонэры. Па сканчэньні вучэбнага году, яны пачалі раз'яжджацца па вёсках. Перад ад'ездам мы наладзілі прашчальны сход атраду, дзе мы далі ім наказ, што яны павінны зрабіць у вёсцы. Вясковыя піонэры абяцаліся, што гэта ўсё зробяць, прычым будуць трымаць з намі сувязь.

Мсьціслаўль, Калінінскай акругі,
13 піонэратрад.



## Жыцьцё Прапойскіх атрадаў.

(*2 і 3-ці атрады мяст. Прапойск, Магіл. акр.*).

Як 2-гі, так і 3-ці атрады ўжо існуюць каля году. За гэты тэрмін атрады пасьпелі ўжо поўнасьцю прайці шлях організацыі. Цяпер атрады вядуць самую глыбокую працу па выхоўваньню сваіх сяброў і вакольных дзяцей.

Атрады маюць свой клюб, дзе грунтуецца ўся наша праца. У атрадах організаваны ячэйкі МОПР'у ОДВФ, Сябры дзяцей і інш.

2 атрад у большасьці сваёй аб'яднаў дзяцей жыдоўскай нацыянальнасьці, а 3-ці—беларускай. Праца ў атрадах вядзецца на родных мовах.

Піонэры: *Вертліб. Рабіновіч.*

## Шчыра дзякуем.

Койданаўскі атрад юных піанэраў імя Адамовіча шчыра дзякуе дзядзьку Адамовіча за тое, што ён нам прыслаў піонэрскую біблітэчку.

*Атрад юных піонэраў.*




Ленінская палатка 18-га Нова-Барыс. атраду.

## Як мы паступалі ў піонэрскі атрад.

(*Паташынскі атрад, Меж. раён, Віц. акругі*).

Нам уперад здавалася, што піонэры гэта дужа дрэнныя дзеці. Але як прышоў да нас у клясу павадыр атраду, пачаў нам гаварыць аб піонэрах, нам вельмі захацелася быць піонэрамі. Тады мы ўсе пашлі ў піонэрскі атрад і залічыліся піонэрамі. Цяпер мы добра працуем у сваім атрадзе, кожны з нас мае чырвоны гальштук на грудзёх, якога мы раней баяліся.

*Алесь Грышаноў.*

## Рыхтуемся да М. Д. Тыдню.

У нашым атрадзе распачалася падрыхтоўка да Міжнароднага Дзіцячага Тыдню. Вырашылі паслаць ліст да Харбінскіх піонэраў і на працягу тыдню знаёміцца і абменьвацца думкамі з харбінскімі таварышамі. Рыхтуем модэлі-эмблемы зьвеньняў. Зьбіраем матар'ял для газэты і падрыхтоўваем п'еску.

*М. Гельфер.*

Бабруйск, 86 атрад.

## Што мы зрабілі ў лагеры.

(*Менск, атрад пры Заходняй чыгунцы*).

У тым месяцы мы наведаліся лагеру. Былі ў Весялоўцы, недалёка ад Менску.

У лагеры мы ня толькі гулялі і купаліся, але й працавалі ў саўхозе: палолі грады, грэблі сена і інш.

У лагеры мы прабылі 5 дзён.

*П. Шарафановіч.*



Перад вамі палатка. А дзе піонэры?

# ШэфскаЕ

## Узялі шэфства.

(*М-ка Капыль, Слуцкае акр.*).

Гэтае вясны наш 14 атрад піонэраў прыняў на сябе шэфства над піонэрамі навакольных вёсак, якім шмат дапамагае ў іх працы. Ходзяць нашы піонэры праводзіць там заняткі, робяць даклады, даём літаратуру, якою яны надта цікавяцца і г. д.

Будзем сападзявацца, што наш атрад прынятую на сябе працу давядзе і да канца.

*Алесь Баравік.*

## Шэфа не забудзем.

(*Дамамерычы, Калінінскае акр.*).

У маі месяцы над намі ўзяў шэфства 4-ы Клімавіцкі піонэрскі атрад. З першых дзён працы шэфства, праца атраду значна ажывілася. Пры дапамозе шэфа мы паставілі спэктакль, дзе прысутнічала шмат сялянскай моладзі.

Усе засталіся здаволены.

Спадзяёмся, што шэф і ў далейшым будзе нам памагаць.

*А. А. Марчэнка, І. С. Радчэнка.*

## Шэф дапамагае.

(*Шацк*).

Над нашым атрадам узяў шэфства наш коопэратыў. Сябры спажывецкага таварыства кожны раз прыходзяць к нам на зборы праводзіць якую небудзь гутарку, або проста цікавіцца нашай працай. Апрача гэтага шэф нам дапамагае з боку матар'яльнага. Ад яго мы нядаўна атрымалі маленькую бібліотэчку; калі трэба—дае паперы і г. д. У дзень піонэрскага сьвята шэф паднёс нашаму атраду сьцяг, якога так доўга чакалі нашы піонэры.

Піонэр *Мацкевіч.*

## Добры шэф.

(*Блёнь, Барысаўскае акругі*).

Спачатку організаваньня нашага атраду мы ня мелі літаратуры і газэт, што вельмі, дрэнна ўплывала на нашу працу.

Цяпер-жа к нам прымацавалі шэфа—рабземлес. Ён нам выпісаў „Піонэрскую Праўду“, „Ленінскую Іскру“, „Чырвоную Зьмену“ і часопісі: „Піонэр“ і „Беларускі Піонэр.

Цяпер мы маем што чытаць.

Дзякуем табе, добры шэф.

Піонэр 34 атр. *А. Сурма.*

## Шукаюць шэфа.

Ужо хутка будзе два месяцы з таго часу, як Лагойскай ячэйкай вынесена пастанова, каб падшукаць шэфа Гасьцілавіцкаму атраду юных піонэраў.

Пастанова ёсьць—і то добра! Кажуць, што яшчэ шукаюць і шэфа.

Але вельмі-б хацелася хутчэй яго найці.

*В. Зарэмба.*

## Дрэнна без памяшканьня.

(*Вёска Гасьцілавічы, Лагойск. раёну*).

Кепска было працаваць зімою, а цяпер яшчэ пагоршала. Зімою хоць можна было праводзіць свае заняткі ў школе, а цяпер і таго няма. У добрую пагоду можна зьбірацца й на вольным паветры, але часамі, як ў часе заняткаў ды пойдзе дождж, то й дзявайся, дзе хочаш.

Трэба нашым мясцовым організацыям адгукнуцца на нашу просьбу і дапамагчы даць нам клюб.

Павадыр атраду імя
т. Ігнатоўскага *В. Зарэмба*

## Дапамагаюць.

(*Вёска Пліса, Самахвалаўскага раёну*).

Над нашымі піонэрамі, Пліскай організацыі, узяў шэфства Менскі 5-ы атрад імя Луначарскага. Яны нам дапамаглі організаваць насьцен. газэту, купілі нам невялічкую бібліотэчку.

Нашы піонэры рады, што маюць такога шэфа і шлюць яму *вялікае дзякуй.*

*У. Даўгаленка.*

**Пішы ў сваю часопісь. Чытай сваю часопісь. Выпісвай і пашырай сваю часопісь „Беларускі Піонэр“.**

# ЛАГЕРЫ.

Пасьля доўгае язды ў шуканьні лагеру, мы пад'яжджалі да яго. Здалёку лагер мае выгляд мурашніка.

Пара пасьля вячэрняе праверкі; толькі што спусьцілі сьцяг. Насустрач нам зьявіліся часавыя.

Стой!.. Хто?.. Куды?

Пасьля-ж пазналі й з вясёлымі крыкамі павялі ў лагер.

З лагеру дзеці ідуць спаць у будынак з настроем і ўражаньнем ад гутаркі, якая вялася нядаўна ля вогнішча.

Ідуць спаць у палаткі...

Уваходжу, а там ложкі стаяць, прастыні, коўдры, падушкі.

Грамадзянска-палітычная праца праводзіцца вялікая. Працуюць на полі ў вёсцы, у мястэчку—вывучаюць гісторыю мястэчка, дапамагаюць местачковаму атраду, праводзяць гутаркі з сялянскімі дзяцьмі, якія цэлымі кучамі прыбягаюць ў лагеры. На гутарку ля вогнішча прыходзяць нават дарослыя сяляне.

Аздараўленьне ідзе поўным тэмпам: дзеці загарэлі, як нэгры, маецца многа гульняў, як: гарадкі, спартыўныя прылады, і цэлы дзень можна чуць звонкія галасы дзяцей, захопленых гульнёю.

Маецца інструктар фізычнага выхаваньня, два пэдагогі, якія праводзяць адукацыйную працу як у лесе, гэтак і на полі.



**Лагер 18-га Нова-Барыс. атраду.**

Раніца... сыгнал... Дзеці, як коркі з бутэлькі, выскаквающь з палаткі й бягуць да рэчкі. Я з імі. На рэчцы ёсьць месцы: мялейшыя—дзеля малодшых, ёсьць і глыбейшыя—дзеля „спэцаў“ плаваць...

— Ідзем назад ў лагер да сталоў піць гарбату. Падыходзім, а стала я й ня бачу. Стол, звычайна, бывае на 4-х ножках, а тут нідзе ножак і ня відаць: стол выкапаны ў зямлі. Прыстасаваліся дзеці.

Пасьля доўгага піцьця гарбаты пачынаю аглядаць лагер і цікавіцца яго працаю.

Усяго ў лагеры 200 асоб—4 атрады. У кожным атрадзе ёсьць група чырвоных зорак.

Больш слабыя дзеці сьпяць у будынках з дошчак, дзе замест ложкаў пароблены нары. У адным будынку хлопчыкі, у другім дзяўчаткі. Іншыя сьпяць у палатках.

Тут-жа збудавана кухня. У зямлі пограб, кладовая. Ёсьць таксама ў запасе два сталы, прыкрытыя зьверху брызэнтам—на выпадак дажджу.

Для самаабслугоўваньня кожны дзень дзяжурыць адзін з атрадаў. Павадыр атраду—дзяжурны па лагеру.

Сыстэма працы пабудавана згодна заданьням кожнаму зьвяну. Ёсьць выпрацаваны плян працы агульны, і ў кожным атрадзе ёсьць каляндарны плян на тыдзень.

Павадыры атрадаў кожны вечар радзяцца між сабою, як найлепш праводзіць працу.

Вечарамі праводзяць гутаркі ля вогнішча. Дзеці самі апавядаюць аб тэй працы, якую яны праводзяць у лагерах.

У кароткіх рысах апавядаю ім іх далейшыя заданьні й еду далей.

* * *

Лагер польскае базы. Ён носіць ужо іншы характар. Дзеці жывуць тут толькі ў дамох. Работу праводзяць тую самую—з тэй розніцаю, што тут жывуць яны ў самым мястэчку, а значыць, і абслугоўваюць, галоўным чынам, мястэчка. Тут дзеці да некаторае ступені захапляюцца лоўляю рыбы, плаваньнем на чаўнох.

Яшчэ працуюць у сельсавеце, памагаюць сялянам, падымаюць на ногі вясковы атрад.

*С. Шабашоў.*

# РОЗНАЕ

## Ліст да дзядзькі Адамовіча.

*Дзядзька Адамовіч!*

Мы, піонэры, 45-га Забялішынскага атраду юных піонэраў пасылаем Вам шчырае прывітаньне.

На адным з сходаў нашага атраду мы ўхвалілі насіць Ваша ідэёвае імя.

Маем да Вас дзьве просьбы: калі маеце магчымасьць, прышлеце нам сваю біографію і портрэт.

Мы, піонэры, просім вас трымаць з намі цесную сувязь.

Па даручэньню піонэраў 45 атр.
напісаў *Д. Наймарк.*

## Праца сярод старэйшых піонэраў.

*(Барысаў).*

Усе нашы піонэры спачатку працавалі толькі ў атрадах. Пасьля стала прыкмячацца, што старэйшыя піонэры не здавальняюцца працаю ў адным толькі атрадзе. У апошні час іх пачынаюць уцягваць у працу ячэек ЛКСМ. У кожным атрадзе ёсьць 5—7 особ, якія ходзяць на сходы ячэйкі і працуюць у палітгуртках.

Ячэйкам трэба і надалей уцягваць старэйшых піонэраў у комсамольскую працу.

Піонэр 13 га атр. *І. Мазо.*

## Першая наша начоўка.

*(М. Касьцюковічы, Калінінскае акр.).*

Першага жніўня, у 6 гадзін вечару, піонэры нашага мястэчка разам з комсамольцамі накіраваліся ў лес на начоўку.

Спачатку там былі гульні і песьні, пасьля гэтага раён. павадыр т. Паранкіна абмалявала нам значэньне начоўкі і гутарылі аб жыцьці дзяцей захаду.

Таксама была тут вусная газэта і дэклямацыя. На начоўцы прысутнічала шмат вясковае моладзі.

У 2 гадзіны ночы са сьпевамі піонэрскіх песень мы пашлі дамоў.

Больш-бы такіх начовак.

2 атр. юных піон. Пікоры: *С. П. і М.*

## Дрэнна справа з фізкультураю.

*(Прапойск, Магілеўск. акр.).*

Дрэнна ў нас пастаўлена справа з фізкультураю Зімою яшчэ трохі займаліся спортам, хоць без кіраўніка, а цяпер—ніяк не займаемся. Няма дзе і няма кіраўніка.

Райбюро, паклапаціся, каб піонэры мястэчка займаліся фізкультураю.

## Няма гульняў.

*(Блёнь, Барысаўскае акругі).*

Зімою ў нас ня было месца, дзе-б маглі адбывацца нашы гульні: у будынку цесна і духотна, а на двары холадна. Цяпер-жа ўсюды іх можна праводзіць, а мы, нават, аб гэтым ніколі і ня ўспомнілі. У дні-ж адпачынкаў для гэтага часу ў нас хваціла-б.

Памятайце, піонэры, што гульні на вольным паветры карысны для здароўя.

Піонэр 34 атр. *А. Сурма.*

## Дрэнна бяз спорту.

*(Блёнь, Барысаўскае акругі).*

Каб быць здаровымі барацьбітамі за Савецкую ўладу, піонэры нашага атраду на агульным сходзе ўхвалілі займацца кожную раніцу фізычным выхаваньнем. Але, як дайшло да справы, дык некаторыя ня хочуць уставаць.

Піонэрам трэба выконваць свае пастановы.

Піонэр 34 атр. *І. Гарэцкі.*

## Няма сувязі.

*(Бабруйск).*

У нас пры саюзе дрэваапрацоўнікаў маецца чатыры атрады піонэраў.

Толькі бяда, што між імі няма ніякай сувязі. Піонэр аднаго атраду ня ведае другіх піонэраў. Сумесных збораў ня бывае. Агульных газэт няма.

Гэтак немагчыма. Павадырам трэба падцягнуцца.

*Піонэр 2 атраду.*

## Наладзілі сувязь з комсамолам.

*(Калінкавічы, Калінінскае акругі).*

Доўга ў нас ня было сувязі з комсамольцамі. Апошнія кепска глядзелі на піонэраў. Сьмяяліся з іх салюту і г. д.

Адзін раз на сходзе ячэйкі ЛКСМБ было пастаўлена пытаньне аб сувязі з піонэрамі. Пасьля гэтага комсамольцы сталі цікавіцца піонэрскай працай і часьцей прыходзіць на нашы занят кі. Цяпер мы ўжо 4-х піонэраў перадалі ў ЛКСМБ

*Махлін і Персін.*

## Няма адпачынку.

*(м. Старобіна).*

Усю зіму, седзячы за кніжкай і працуючы ў атрадзе, мы чакалі лета, калі зможам хоць крыху адпачыць. Прышло лета, а ўсёроўна—працы па вушы.

Калі-ж гэта мы будзем адпачываць?

Піонэры: *Ф. Лянда, Ю. Краўчык.*



# НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

## АБ СОНЦЫ

Вялікае значэньне для жыцьця чалавека мае сонца. Усім вядома, што ад яго залежыць жыцьцё й рост расьлін і жывёлы. Сонца мае вельмі вялікую тэмпэратуру, якой на зямлі ня маюць ніякай магчымасьці ўтварыць штучна нашы вучоныя.

Раней з XVII веку сонца разглядалі праз тэлескоп, к якому прыкручвалі цёмнае шкло, каб не спаліць вачэй. Цяпер усе галоўныя абсэрваторыі сьвету займаюцца фотографаваньнем сонца. Тыя малюнкі, якія атрымоўваюцца на фотографіі, разглядаюцца пасьля вучонымі.

У нас, у СССР, вывучэньнем сонца займаецца Ташкенцкая, Пулкаўская і Маскоўская абсэрваторыі.

Глядзець на сонца простым вокам нельга. Трэба скарыстоўваць дзеля гэтага цёмнае шкло; так сама не раіцца глядзець і праз бінокль, бо гэта шкодна для вачэй.

### Адлегласьць сонца ад зямлі і яго вялічыня.

Адлегласьць сонца ад зямлі раўняецца 440 міліёнам вёрст. Калі, напрыклад, возьмем самалёт, які пралятае ў адну гадзіну 200 вёрст, то ён даляцеўбы да сонца за 80 гадоў.

Сьвет, які праходзіць ў сэкунду 280.000 вёрст, ідзе ад сонца 8 мінут. Сонца ў 109 разоў большае за нашу зямлю па дыямэтру. Ведаючы, што дыямэтр зямлі ўсяго мае 12.000 вёрст, мы можам вылічыць велічыню сонца, якая й будзе—692 тыс. вёрст у дыямэтры. Абхват сонца таксама вялікі. З яго можна зрабіць мілiён гэтакіх цел, як наша зямля.

### Тэмпэратура сонца.

Маскоўскі проф. Цэраскі, каб вылічыць тэмпэратуру сонца браў увагнутае люстра, ад якога косы сонца зьбіраліся ў адным месцы, дзе даходзіла тэмпэратура да 2 тысяч градусаў. З другіх вопытаў знайшлі, што тэмпэратура на сонцы раўняецца 6.000 градусам па Цэльсію. Тэмпэратуру ў сярэдзіне сонца вучоныя лічаць міліёнамі градусаў.

### З чаго складаецца сонца.

Вучоныя знайшлі, што на сонцы знаходзіцца шмат тых самых элемэнтаў (пародаў), цел якія знаходзяцца на зямлі. Напр., там нашлі мэталы: жалеза, нікель, марганец, алюміні, волава, сьвінец, срэбра, натры, магні, калі і шмат інш. З газаў: вадарод, тлен (кіслярод), гелі, азот.

Але ў сучасны момант усе гэтыя целы не знаходзяцца разам, дзякуючы тэй вялікай тэмпэратуры, якая пануе на сонцы.

На сонцы няма ні жыдкіх цел, ні цьвёрдых—там толькі адны газы. Праз шмат яшчэ гадоў сонца астыне і будзе такім, якім ёсьць у сучасны момант наша зямля.

### Сьвет сонца.

Раней думалі, што сонца заўсёды грэе й сьвеціць аднолькава, але гэта неправільна. У адны гады яно дае больш цяплыні сьвету, як у другія. Вучоны Аббот (Амэрыка) вядзе шмат гадоў вымеры. Ён вылічыў, што, пачынаючы з 1917 году па 1920 год, сонечная цяплыня даходзіць да вышэйшай лічбы (2 калёрыяў на кв. см.). Гэта цяплыня запасаецца акіянамі, якія пакрываюць 65 проц. зямлі. З 1922 году сонечная цяплыня зьніжаецца, што і заўважаецца на клімаце Эўропы.

Аббот і другія вучоныя знайшлі, што цяплоспусканьне сонцам павялічаецца тады, калі на сонцы болей усяго зьяўляецца так званых сонечных плямаў.

З усяго гэтага мы бачым, што нагляданьне за сонцам мае вялікае значэньне для правільнага вядзеньня народнай гаспадаркі ў дзяржаве.

### Сонечная энэргія на зямлі.

Сонца пасылае на зямлю каля 2 калёрыяў у мінуту на адзін кв. сантымэтр. Лёгка вылічыць колькі калёрыяў яно пасылае ў гадзіну, у месяц на любы пляц зямлі.

Гэта цяплыня робіць на зямлі шмат якую працу. Яна награвае акіяны, адчаго й бываюць морскія плыні (вада цёплая перамешваецца з халоднаю і ўтварае плынь). Награваючы паветра, падымае яе ўгару, адчаго бываюць ветры. Ад спарэньня вады ўтвараецца дождж і сьнег.

Зялёныя часткі расьлін раскладваюць вуглякіслыя часткі паветра на вуглярод і тлен.

З вугляроду расьліны будуюць сваё цела. Самаю галоўнаю часткаю ў жыцьці расьлінаў зьяўляецца сонечная цяплыня.

Энэргія чалавека ёсьць таксама энэргія сонца, бо ён жыве гэтымі расьлінамі, якія бяруць сваю энэргію ад сонца.

У нашай тэхніцы мы таксама бяром сонечную энэргію. Напр., у Донбасе мы бяром з зямлі запасы сонечнай цяплыні у выглядзе вугля, які ўтварыўся з даўнейшых лясоў.

За астатнія гады стараюцца скарыстаць сонечную цяплыню для работы. У гарачых частках Амэрыкі й Афрыкі ставяць на палёх паравыя машыны, якія качаюць ваду з крыніц для арашэньня палёў. Гэтыя машыны маюць кацёл для вады і працуюць парам. Але кацёл награваецца не агнем, а сонцам. Для гэтай мэты зрабілі люстру сагнутай формы так, што сонечныя косы зьбіраюцца ў фокусе. Туды й зьмяшчаецца кацёл машыны. Люстру можна зрабіць з асобных плоскіх люстраў і скампанаваць іх пад вуглам. Мэханізм гадзіньніка паварачвае яго за сонцам.

Гэтакія сонечныя машыны будавалі Мушо, Эрыксон, Ініса. У нас яны маглі-б скарыстоўвацца ў Крыме, Туркестане, на берагох Касьпія, на Каўказе.

З гэтага ўсяго мы бачым, што далёкае ад нас сонца зьвязана моцна з зямлёй, з нашай барацьбой з прыродай, з заваёвамі яе багацьцяў і вытворчых сіл.

*В. М.*




(*Апавяданьне*).

I

Далёка ў далі пад сонцам золатам блішчэла пачарнеўшае іржышча; дзе-ня-дзе віднеліся яшчэ ня зьвезеныя, адзінокія крыжыкі запозьненага аўса. А так ўсё было пуста.

Кроснамі срэбных нітак вілося ўгары павуценьне. Яно паволі лёгка лётала, цярушылася так квола, мякка падала, чаплялася на іржышча і на пастушка Язэпку, які пасьвіў каровы.

Ён неяк сёньня адчуваў сябе так добра, як ніколі. Не стаіць ужо больш у яго вушах гул дасьціпных аваднёў, не чапляюцца да яго назойлівыя мухі, як гэта было ў часе гілю, ня лётаюць больш так шалёна каровы.

О, тады йнакш усё было! Набегаўшыся за цэлы дзень, ён сьпіць, як ня жывы. Ноччу бывае ён раптам прахопіцца й крыкне праз сон:—Куды, куды, Панядзёха! Стой! Сяргей, ня пусьці!

І зноў, як ніўчым ня бывала. Ня ведаючы сам, што й як гаварыў, ён кінецца галавой у падушку й ціха, як заўсёды, усхрыпвае. Матка прабудзіцца ад такога нечаканага крыку. Перапалоханая яна пытае:

— Што, як?.. што ты казаў, Язэпка?

Але прыслухаўшыся, яна чуе, што Язэпка сьпіць. Тады яна перавернецца на другі бок і ціха сама сабе скажа:

— Мусіць, спужаўся нечага: праз сон гаворыць. Вады заўтра трэба даць. . . і ціха засьне. Назаўтра, чуць толькі ўсход расплывецца ў ясную раняшнюю ўхмылку, а ўжо Язэпку, як няжывога, соннага сьцягваюць з пасьцелі. Ён нешта мармоча сабе пад нос, а то раптам крыкне: „панядзёха!“—ды зноў сьпіць. Тады, ведаючы, што з ім нічога ня зробіш, Язэпку сілком сьцягваюць з пасьцелі. Ён шапатнецца, злосна крыкне і сонны лезе зноў на ложак. Яго ня пускаюць, аблііюць сілком халоднай вадой і толькі тады ён, як кот, лыпне сваімі мутнаватымі маленькімі вочкамі.

— Каровы вунь ўсе пагналі,—гаворыць яму матка.

Але гэта ўсёроўна, сон яму даражэй за ўсё, нават за жыцьцё. Тады здавалася Язэпку, што ён за адну хвіліну аддаў-бы ўсё, што мог.

Матка ў яго пытае, што есьці ён будзе. Ходзіць каля яго, але гэта ўсё дарэмна. Язэпка і ў рот нічога ня браў, гнаў так галодны ў поле.

Там, здавалася яму, што і поле такое сумнае як і ён, што і яно, як быццам плакаць зьбіраецца. Яго хіліла да сну. І толькі яркая марозьлівая раніца бадзёрыла яго, ды яшчэ ён баяўся, каб не стравіць чужы засеў і каб не ўгарэла за гэта яму, што часта здаралася.

Ён садзіцца на мяжы, падгінае свае чорныя, парэпаныя, папрабіваныя ножкі. Згінаецца так у клубочак і глядзіць на абліты макавай чырваньню ўсход.

Сонца ўзыходзіць. Першыя прамені сонца ласкава цалуюць халодныя ўзгоркі. Звонка пераліўнымі галаскамі разносяцца сьпевы птушак. Кукуе, зязюля.

II

— А цяпер гэтага няма, што было,—падумаў Язэпка.

Цяпер ён сьпіць крыху пазьней, але пасе за тое цэлы дзень каровы.

Пры гэтым азірнуўся ён вакол. Каровы ходзяць. Цяпер для іх прастор.

Ён памкнуўся ўстаць, каб узяць хлеба з торбы, але заўважыў, што ён быў абвіты ніткамі павуценьня. Устаўшы, ён атрэпаў з сябе яго

Дастаўшы з торбачкі хлеба, Язэпка паспрабаў грызьці. Але напрасна. Хлеб высах, выпятраў у камень.

— Куды, панядзёха!—крыкнуў раптам ён, заўважыўшы, што яна адлучылася ад стадку

—Вось, каб цябе воўк! чаго табе не стае?— бурчаў ён, бягучы заварачваць яе.

Потым, зьбегаў ён у крынічку, размачыў высахшы за дзень хлябок. Палічыў колькі крокаў цень, ці хутка да вечара і сеў зноў на мяжу есьці размочаны хлябок.

Сонца сьвяціла так ярка, што Язэпка ня мог глядзець на яго.

Ён адчуваў на сабе павуценьне, якое чапляецца зноў яму за твар, за ногі.

І раптам аднекуль зьявіліся ў яго думкі аб павуценьні, аб полі.

А хутка ветры васеньнія павеюць холадам, дажджом. Лісьце, пасыплюцца з дзярэў, птушкі ўсе зьнікнуць, уцякуць туды, дзе цяплей. Цяпер ужо шмат якіх птушак няма.

— Але куды палятуць птушкі? — шавяльнулася пытаньне ў Язэпкі.

Ён-жа, Язэпка, часта пытаецца у бацькі: што такое сонца? неба? Але бацька з яго пасьмяецца і скажа: «вельмі ўжо ты цікавы». Тады ён ўжо больш і ня пытаўся ні аб чым у бацькі, хаця яго ўсё цікавіла.

Зімою бацька стараўся навучыць яго чытаць, паказваў нейкія літары, як казаў ён, нейкія палкі, перакладзіны. А на чорта каму яны? Што рабіць з гэтага чытаньня?—думаў Язэпка.

Усё гэта робіцца толькі для таго, каб некалі пасьмяяцца з яго. Але ніколі гэтага ня будзе, ён ня дурны.

Тады яму ўявілася, што ён, Язэпка, ужо не Язэпка, а вялікі, здаровы, што баіцца яго цэлы сьвет. Баяцца нават і пастухі, якія пасылаюць адганяць яго.

Але раптам зашуршэла іржышча, абудзіла ад сну-думак Язэпку. Ён глянуў спалохаўшыся: нагналі тыя пастухі да яго кароў.

— Юзя, кузя воўчы брат—
Зьеў кабылку й панарад,—

засьпяваў ідучы да яго Раман, самы гарэза для малога васьмёхгадовага Язэпкі.

— Чаго вы злучыліся?—запытаў Язэпка.

— Ты баішся лішні раз каровы адагнаць, кузя—абазваўся Раман.

Язэпка нічога не адказаў, а пашоў вылучаць каровы.

III

Яшчэ больш пажаўцела восень.

Сады засьвяціліся лысінамі яблык, апусьцелі палі, пакрыла зямлю коўдраю лісьцё.

Дні то былі ясныя, то ветраныя з дажджом.

Так і праходзілі дні, то з ветрам, калі сонца йшло ў дагонкі з ценьню, а то ясныя спакойныя дні, калі сьвет сонца як з вядра ліўся на зямлю.

У такую адну ясную раніцу выгнаў Язэпка каровы ў поле.

Ён жмурыў вочкі ад лішняга сьвету, праганяў сон.

У гэтую пару яго жалейка заўсёды распушчала халодныя зыкі. А цяпер іграць ня цікава.

Нешта глуха, няпрывычна забарабаніла аднекуль і рассыпалася.

Нібы чэрці, якімі раней страшыла матка, справілі тут недалёка свой баль.

Язэпка пагнаў шыбчэй каровы...

Сьцяна людзей хутка стала на вуліцы.

Па палявой дарозе к вёсцы нескончоныя шэрагі цягнуліся дзяцей у чырвоных кароценькіх кашульках і штоніках.

Лёгкі ветрык калыхаў угары над грамадой незнаёмых дзяцей нейкія шырокія, як з сонца, чырвоныя паркалёвыя хусткі на палках з агнявымі перакладзінамі літар.

Паперадзе гэтых несканчоных сьценшэрагаў дзяцей ішоў малы хлапчук...



Ён як махнуў рукою, дык зразу ж забарабаніла, як гарохам у сьцяну; рванул іся гукі і панесьліся шырынёю па ваколіцы.

Язэпка хутчэй загнаў каровы на аселіцу і бягом кінуўся ў вёску...

Ён бачыў на вуліцы вёскі чырвонае мора дзяцей, бачыў тыя самыя перакладзіны літар на хустках, якім яго хацеў навучыць бацька.

— Дык не, не!—думаў ён. Нешта такое ёсьць на сьвеце. Ніхто яго ня хоча абманіць.

Ён чуў, што нешта гаварылі незнаёмыя дзеці, махалі рукамі, але гэта ўсё было нібы ў нейкім тумане.

Да яго далятали такія словы, што ён ня чуў ніколі ў жыцьці. Як нейкі „міжнародны дзіцячы тыдзень", „горад" „піонэр".

* * *

Была ўжо сапраўды позная восень. Вецер жаласьліва плакаў над голымі, як бубен, палямі. Трывожна пераклікаліся апошнія журавы: сьпяшаліся ў вырай.

Як раз у такі позны час ў голым садзе, каля школы адбываўся другі сход атраду. Было ўсё спакойна. Пасярод дзяцей сядзеў і Язэпка з чырвонаю зоркай на грудзёх і весела гаварыў аб працы „Чырвоных Зорак".

*П. Рагачэўскі.*



# ЛАГЕРНАЕ.

Жмурыць сонца свае косы,
Скача зайчыкам у лісьцях:
То на хвойку яно ўскочыць,
То ў лагчынцы зьмейкай блісьне.

Піонэры пры даліне,
Каля рэчкі завітушнай,
Грэюць плечы, грудзі, сьпіны
На мураўцы без падушак

І прыемна прыпякае
Сонца скуру, нібы вугаль.
А прысмаліць—уцякаеш
І нырца зажарыш мухай.

А як час атраду збору—
Заварушыцца мурашнік.
Стромкі лес аж загаворыць,
Згорне лісьце на апашкі.

І цякуць дзяцей прамовы;
Ідзе важная нарада.
Прыхіліліся галовы,
Нібы макаўкі на градах.

Як настане час абеду—
Наўгалоп тады, як коні.
Ні закону, ні завету
Ні адзін цяпер ня ўспомніць.

Толькі песьня гучна льлецца,
Аж заціхнуць птушкі ў лесе.
Эх ты, лагэр—наша сэрца,
Эх ты, сонца, эх вы, песьні!

*А. Я.*



# ПРАШУ АДКАЗАЦЬ.

*Глікману і Слабуху*. Пішэце лепш аб асобных момантах жыцьця вашага атраду. Допіс аб сувязі комсамолу з піонэрамі ў агульным абхваце друкаваць ня будзем. Нічога новага вы ня ўносіце.

*Валкіну і Таўбіну*. Спазьнілася. Цяпер зьмяшчаць няма ніякай цікавасьці.

*Ул. Пню*. Раім табе зьвярнуцца ў савет атраду, і савет разбудзіць вашага павадыра, падштурхне яго да працы.

*Давіду Плаўніку*. Рэдакцыя з табою згаджаецца, што вашы піонэры ядуць ігрушы, на тое-ж цяпер лета. А што многа нямажна есьці, дык гэта ўсім добра вядома. Ды нават і на сходзе-ж вы аб гэтым гутарылі.

*М. Махліну і Персіну*. Аб пікорах зьмесьцім у чарговым нумары.

*Е. Хаету*. Верш „Да сялянскіх дзяцей" будзе скарыстаны. Пішы больш.

*Герцовічу*. Матар'ялы скарыстаем.

*І. Вербаху*. Ня пойдзе. Ужо позна друкаваць аб гэтым.

*Н. Левінай*. Лепш пішэце аб асобных момантах у працы вашага атраду: што атрад цяпер робіць і што перашкаджае ў гэтай працы. Друкаваць-жа допіс, дзе абмалёўваецца ўся гісторыя атраду з яго першага дню, ужо для нас ня цікава. Такіх допісаў трэба старацца менш даваць і пісаць.

*М. Марцінкоўскаму*. Фотографію і допіс даём у чарговым нумары. У гэты нумар ніяк нельга было пасьпець з пераводам фотографіі.

Усе пытаньні, якія маюцца ў рэдакцыі ад піонэраў, зьмесьцім ў чарговым нумары.

Выданьне НКА БССР.

Рэдколегія: А. Якімовіч. М. Лабадаеў. П. Хэйфец.




# Жарты і задачкі.

## Задачка № 1 (у форме крыжу).



Дадзены літары: 2—А, 1—Г, 1—Е, 1—І, 3—Л, 3—Н, 2—С, якія трэба расставіць у клетках крыжу так, каб атрымаць 4 словы, якія маюць значэньне:

1. Назва правадыра
2. Назва расьлін
3. Назва кабеты
4. Назва зьвера.

## Шарада.

Першы склад маёй шарады
Знойдзеш між шкляной пасуды.
Ёсьць вада ў ёй і прынады,
Як прыложышся, дык цудам
Будзе сьвет табе здавацца.
На зямлі у верхнім пласьце
(Папарыся толькі, брат)
Сьмела знойдзеш другі склад.
Тады першы з другім скласьці.
А далей—то не сьпяшыся
Ды да Лёсіка зьвярніся.
І між склонавых канчаткаў
Ты патрапіш на адгадку.
Але тут адна умова:
Бяры ў родным склоне слова
І у множным яго ліку
Лаві хвост шарады сьлізкі.

## Задачка складоў № 2.

Пераставіць у словах: *нос*, *пала*, *аруд*, *барэк*, *ха*, *пачка* літары так, каб вышлі новыя словы (напр., лапа—пала). Першыя літары правільна знайдзеных слоў дадуць назву гораду Беларусі.

## Задачка № 3.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| П | А | Л | К | У |
| А | Д | А | А | Т |
| Р | Н | * | Б | О |
| У | А | С | А | З |
| К | Р | Т | У | К |

Дадзеныя 6 адрэзкаў са словамі: *пала*, *баку*, *урад*, *кран*, *стук*, *азот*—пераставіць так, каб можна было прачытаць па парадку клетак квадрату новых 6 слоў, азначаючых: 1) бел. поэта; 2) лік („числительное“); 3) блізкі родны; 4) частка дзерава; 5) частка твару; 6) загад.

## Разьвязалі задачы з папярэдных нумароў:

**Малевіч Алесь** *(Капыль)* разьвязаў задачкі Гэрмана і Тодара з № 5.

**Меер Марцінкоўскі** разьвязаў рэбус з № 6 „загляне сонце і ў наша ваконца“ (яшчэ да выхаду № 7).

**Ю. Таўбін** *(Мсьціслаў)* разьвязаў задачку з № 5 Германа і рэбус з № 6.

# ПІОНЭРСКІ РУХ У БУРЖУАЗНЫХ КРАІНАХ.

Дзіцячы комуністычны рух змог ужо прабрацца ва ўсе краіны сьвету. У кожнай краіне маецца комнартыя і комсамол, і каля гэтых організацый гуртуюцца маладыя комунары.

У нашай Савецкай краіне дзіцячыя комуністычныя організацыі сумелі ўжо так вырасьці і разьвіцца, што абхапілі сабою амаль што ўсе самыя глухія куткі саюзу. З кожным днём усё шырацца нашы шэрагі, абхапляючы ўсіх дзяцей у сваю організацыю. Мы працуем у сваёй організацыі вольна, ніхто нам у працы не перашкаджае. Наадварот, мы маем у сваёй працы самае шырокае падтрыманьне як з боку сваіх старэйшых братоў комсамольцаў і комуністых, так і з боку ўлады. Ня так жывецца нашым братом за межамі. Там на кожным кроку ловіць цябе шпік-фашыст, або соцыял здраднік. І калі зловіць — не пашкадуе перадаць у рукі паліцыі і ўлады. А ўлада ўжо ў зубы не паглядзіць табе за тое, што ты капаеш ёй яму. Але не падаюць духам нашы браты ў сваёй комуністычнай працы. Цьвёрдая вера ў перамогу працоўных надае ім сілы і бадзёрасьці ў змаганьні. Нашы браты на Захадзе ў гэты час гуртуюцца толькі для змаганьня. Ім яшчэ не да мірнай працы і разьвіцьця сваіх здольнасьцяй і г. д., якую праводзім мы ў сваіх атрадах. Дзеці рабочых і сялян буржуазных краін гуртуюцца ў свае комуністычныя організацыі, каб памагчы сваім братом і бацьком скінуць уладу „уладароў гэтага сьвету“. Буржуазныя дзеці ў сваю чаргу таксама гуртуюцца, каб перашкаджаць у працы дзяцей рабочых і ўсякімі мерамі зьнішчаць іх організацыі. Ідзе заўзятая барацьба. Сілы з боку пролетарскіх дзяцей растуць, бо пролетарыяў-жа міліёны, а іх, буржуяў, жменька. Пройдзе год—два—тры, і дзеці працоўных усе будуць аб'яднаны ў сваю магутную комуністычную організацыю. Сумесна з комуністымі і комсамольцамі яны змогуць ужо гатовымі выступіць на абарону свайго жыцьця і расьцерці буржуазію так, як яе расьцерлі ў нас.

Вось некаторыя моманты з жыцьця і змаганьня дзяцей комунараў Амэрыкі і Англі, якія зьяўляюцца досыць тыповымі для ўсіх краін.

## Амэрыка.

Дзеці рабочых і сялян Амэрыкі гуртуюцца ў організацыю „Сэкцыя Малодшых“ Саюзу Комуністычнай Моладзі. Гэтая організацыя залажылася з другой паловы 1923 году. Ужо 16 гарадоў Амэрыкі абхоплены гэтай організацыяй. Агульны лік дзяцей, аб'яднаных у „Сэкцыю Малодшых“,перавышае за 1000.

Мэта „Сэкцыі Малодшых“—гэта організаваць у свае шэрагі ўсю дзіцячую пролетарскую масу і цяпер-жа змагацца за свае правы. Дзіцячымі Комуністычнымі групамі гэтай сэкцыі вядзецца рашучая барацьба з старой школаю. Школы Амэрыкі ў рабочых кварталах, дзе вучацца дзеці рабочых, маюць жудасны выгляд. Яны будуюцца па схэмах баракаў, не апальваюцца, не асьвятляюцца. Ёсьць шмат школ, якія ня маюць ніякай печы, а калі і ёсьць печ, то простая, з якой вечна выходзіць чад. Такія ўмовы працы заставляюць дзяцей задумацца над сваім жыцьцём. Дзеці беднякоў гуртуюцца ў школах у групы і праводзяць свае сходы і гутаркі на розныя палітычныя тэмы.

Настаўнікі і дарэктары, зразумела, стаяць і нагамі і рукамі за буржуазію і старыя формы жыцьця. І калі што чуць прыкмецяць няддобрае з боку дзяцей пролетарыяў—дык зразу-ж ушчунуць, як належа быць.

Адзін хлопчык за тое, што даў настаўніцы правільнае азначаньне Рэволюцыі ў Расіі, быў зьбіты дарэктарам рызіною.

Пад угрозаю пабояў заставляюць дзяцей аддаваць свае прывітаньні нацыянальнаму сьцягу, які буржуі выкідаюць пры разгоне рабочых стачак.

Але ня гледзячы на ўсе гэтыя мерапрыёмствы начальства, школьнікі усё ж такі неаслабна працуюць і змагаюцца з старымі формамі школы і жыцьця. Нават настаўнікі прыходзяць у зьдзіўленьне ад такога клясавага здаровага ухілу, які ўжо заложаны ў школьнікаў-пролетараў.

У школах, дзе вучацца і дзеці фашыстаў, вучні разьбіваюцца на лагеры: левы бок займаюць дзеці рабочых, а правы—фашыстых. „Левыя“, па водгукам настаўнікаў, у ведах садзяць у калошу „правых“. „Левыя“ дзеці аб'яднаны ў Дзіцячай Комуністычнай групе свайго гораду. Яны ня толькі вядуць змаганьне ў школе, а і дапамагаюць дарослым: разносяць і распаўсюджваюць комуністычныя лёзунгі, апавяшчаюць старэйшых аб сходах і г. д.

## Ангельшчына.

Дзіцячыя комуністычныя групы ў Ангельшчыне маюць перашкоду ў сваёй працы з боку бой-скаўтаў. Гэта організацыя буржуазных дзяцей, якая мае падтрыманьне з боку ўлады. Праца дзіцячых комуністычных груп даволі значна адчуваецца ў Англіі. Пры выбарах у парлямант (вярхоўная ўлада) дзеці прымалі самы актыўны ўдзел. Яны расклейвалі комуністычныя адозвы і плякаты, разам з комсамольцамі выступалі ў дэмонстрацыях і протэстах. Усе дзеці сябры організацыі плацяць сяброўскія ўзносы. У організацыю прымаюцца дзеці толькі з 8-ёх гадоў.

Такое-ж самае становішча Дзіцячых Комуністычных Організацый і ў другіх краінах. Усюды дзеці бедната ўзварухнуліся і пачалі організоўвацца для змаганьня за свае правы і за правы працоўных. Толькі праз організацыю яны разам з комуністымі і комсамольцамі змогуць перамагчы сваіх ворагаў.

*А Чурылавец.*




# ПІОНЭРЫ У ПАНСКАЙ ПОЛЬШЧЫ.




Слухай, піонэрыя свабоднай краіны Беларусі!

Праводзячы сваё ўрачыстае сьвята—Міжнародны Дзіцячы тыдзень—у свабоднай савецкай краіне, наш самы першы і вялікі абавязак *успомніць аб сваіх таварышох піонэрах буржуазных краін.* Горда й высока ўзаўецца наш піонэрскі сьцяг тут. Там-жа буржуазная жандармэрыя пастараецца з першага моманту парваць наш сьцяг і паслаць нашых таварышоў у турмы. Піонэрам прыдзецца ў падпольлі, пад вялікім страхам за сваё жыцьцё, адзначыць сваё сьвята.

Успомнім-жа сягоньня ў свой урачысты дзень аб зусім яшчэ маладых *піонэрах панскай Польшчы, падшэфных нам піонэраў.* Пастараемся-ж зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы сваім падшэфным у іх цяжкай барацьбе.

У панскай Польшчы дзіцячыя комуністычныя групы організаваліся толькі ў лютым гэтага году.

Чаму-ж гэтак позна?

А таму, што Комсамол Польшчы толькі цяпер абмацнеў і цьвёрда стаў на ногі.

Цяжка працаваць, калі на кожным кроку наглядаюць за табою шпіёны. Буржуазія не глядзіць на ўзрост—яна жорстка распраўляецца з тымі, хто капаё ёй магілу.

Мы такога пэрыоду не перажывалі ў сваёй працы, але мы павінны добра ведаць, як працуюць нашы браты за межамі.

Яшчэ ў 1923 г. у Польшчы быў арыштаваны і пасаджаны ў турму гурток дзяцей узростам ад 12—14 гадоў. І гэта тады, калі нават іх-жа буржуазныя законы ня маюць права судзіць недарослых.

*Як-жа працуюць дзіцячыя гурткі?*

Узімку дзеці зьбіраюцца дзе-небудзь у школе ці ў прыватнай кватэры і там праводзяць свае сходы, выставіўшы варту. Улетку зьбіраюцца ў лясох далёка за горадам.

Праца заключаецца ў чытаньні політычнай літаратуры, гутарак аб жыцьці рабочых і сялян у Польшчы і Савецкіх краінах.

Цяпер піонэрская організацыя Польшчы значна пашырылася. Маецца ўжо нават свая часопісь.

Вось, таварышы, як жывецца нашым падшэфным братом у Польшчы. Мы павінны старацца наколькі гэта магчыма дапамагчы ім; пасылаць свае лісты да асобных груп, расказваць аб сваёй працы і г. д.

Гэтым самым мы выконваем свой закон: *юны піонэр—таварыш піонэраў рабочых і сялянскіх дзяцей усяго сьвету.* Гэтым самым мы выконваем заветы дзядулі Ільліча

*М. Л.*



